УДК 821.161.3-3
ББК 64(4Беи)
К43

**Кіркевіч, А.**
К43 Самурай : апавяданні / Алесь Кіркевіч. — Мінск : Кнігазбор, 2018. — 144 с.
ISBN 978-985-7180-64-6.

Свет перапоўнены інфармацыяй, а чалавек не адчувае "інфармацыйнага голаду", каб чытаць вялікія кніжкі. Таму шанец застаецца адно ў паэзіі ды кароткіх празаічных тэкстаў. Туды, нібы ў мікрачып, можна запісаць максімум эмоцый – каханне, страх, роспач. З імі ды іншымі рэфлексамі спрабуе гуляць аўтар у сваім дэбютным зборніку.

Большасць твораў ужо бачылі свет на старонках газеты "Наша Ніва", цяпер яны ўпершыню сабраныя пад адной вокладкай.

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 64(4Беи)**

**ISBN 978-985-7180-64-6**

# Імёны для Вікі

Чаты ў сацыяльных сетках нагадваюць ідэальную п’есу. У часы Чэхава пасля рэплікі трэба было дадаваць у дужках “ехидно улыбается”, цяпер для падобных выпадкаў ёсць легіёны карцінак з усмешкамі, сабачкамі, лісамі, кактусамі. Тысячы карцінак замест дзясятка словаў у дужках. Тысячы карцінак замест эмацыйнай бездані жывой размовы.

...Яна нагадала пра сабе нечакана. Я ўжо даўно не згадваў яе імя, не ведаў таксама, ці яна згадвае маё. Згадала.

– Привет.

У сэрцы закалола. Яе мініяцюрны партрэт усплыў на маніторы.

– Вітаю.

– Как жизнь, Володечка?

– Нічо жызнь *(дурнаваты смайл з вясёлай лісой)*. Жывы і на свабодзе.

– Это хорошо *(смайл, з расцягнутай да неіснуючых вушэй усмешкай)*. У меня такое дело... Ты мне

имя поможешь выбрать? Какое-нибудь беларусское. У меня будет дочка.

Мля! Я ледзьве з крэсла не ўпаў. За кратамі рэбраў, дзе толькі што закалола, утварылася пустка. Я застыў, утаропіўшыся вачыма ў акрайчык экрана з чатам. Дрыготкія пальцы паклаў на калені – далей ад клавіятуры.

– Наверное, отрываю? Не злись

– Не злую. Я нешта прыдумаю.

– Gracia! *(Тая ж самая задаволеная фізіяномія без вушэй.)*

Працаваць ужо не хацелася. Хацелася – каб нічога вакол не было. Ніколі.

***

...Тое лета не мела скончацца. Горад глядзеў на нас і ўсміхаўся, калі мы кружлялі па брукаваных ходніках, па белым пяску ўздоўж абмялелай ракі, па асіметрычных вулачках драўляных кварталаў прыватнай забудовы. Дакладна ўсміхаўся, бо я рабіў бы так на ягоным месцы. Горад лічыў нас каханкамі.

Бацька Вікі быў азербайджанцам, вайскоўцам. Менавіта ён падарыў ёй смуглявую скуру, кучаравыя чорныя валасы і біблейныя цёмныя вочы, як на карцінах Эль Грэка. Адтуль жа шалёны тэмперамент, любоў да танцаў і падарожжаў.

Італію яна любіла больш за ўсё. Я быў там, яна не. Гэта была яе мара, якая магла рассыпацца ад неахайнага дотыку або няшчырага пацалунку. Мара, якую магла сапсаваць дрэнная сукня, няведанне мовы, месячныя, няслушная кампанія... Да Італіі трэба было рыхтавацца. Прынамсі, яна так казала. Казала і ўсміхалася.

Мы разам выбіралі ёй абутак, калі яна ламала абцас на той самай брукаванцы. Разам пілі піва і абгаворвалі афіцыянтаў ды афіцыянтак. Яе рукі сціскалі мае, калі перад вачыма пралятали чайкі. Яе сцёгны дакраналіся да маіх, калі хвалі разбіваліся аб гранітныя валуны.

“Мы ведь не делаем ничего плохого, правда?” – усміхалася яна, калі нас бачылі мае знаёмыя. Я ўсміхаўся ў адказ, не кажучы нічога, і праводзіў яе дадому. Дома на яе чакаў Алег, законны муж і мой сябар.

***

– Ты ведаеш, так крыўдна гэта ўсё згадваць... Ён, сука, прыходзіць у намётавае мястэчка, рукі цісне, тыпу, гарбату з дзяўчатамі сеў папіць. Зайшоў, мля, на чай! За ім журналістаў хеўра... “Трымайцеся, трымайцеся, я ганаруся...” Е...ць! А гэта не ты толькі што распусціў Плошчу і ўсіх адправіў па дамах? Не ты кветкі пайшоў класці? Так х...ле ты ўсіх заклікаў сюды прыйсці?!

На апошніх словах Алег кінуў цагліну з асаблівай злосцю. Мы разбіралі старую печ на хутары. За садам, калі прайсці сенакосам метраў трыста, спускаешся акурат на залацісты нёманскі пясочак. Хутар Алег купіў зусім нядаўна. Купіў – для яе.

– Тыпу ты яго паслухаў, – усміхнуўся я.

– Не паслухаў, бо не для яго туды ішоў.

– Ну дык вось!

– Ай...

Хвіліны дзве мы моўчкі кідалі цэглу.

– “Х...ле зваў?” – гэта наогул самая лаканічная характарыстыка тых падзеяў, – зноў забурчаў Алег, не гледзячы ў мой бок. – Такое... народнае пытанне. Магчыма, рытарычнае.

– Пакаленне “Х...ле”, – я зноў паспрабаваў перавесці размову на гумар. – А што? Класна гучыць! Усе ж думалі, што мы з табой – “пакаленне Х”, “пакаленне Next” або “пакаленне Маладога фронту”... А мы – “пакаленне Х...ле”...

– Ай... парадак мае быць – і ўсё. З такімі ... палітыкамі кашы не зварыш.

Алег нарэшце ўсміхнуўся, але неяк нядобра, зрабіўшы націск на слова “палітыкамі”. У гэтым, зрэшты, быў увесь Алег. Двухметровы колішні баскетбаліст, з чубам на лоб і заўчасна пасівелымі скронямі. За рост у арганізацыі ён некалі меў мянушку Таполя.

Гэтым часам у пакой зайшла Віка, трымаючы лыжкі з відэльцамі, закручаныя ў ручнік. Відаць, акурат памыла.

– Вось ты, Вікторыя, чаму не была на Плошчы ў 2006-м? – з усмешкай павярнуўся да маладой жонкі Алег.

– А я не помню... Наверное, у подружки день рождения был.

– Ну вось табе, нацыя беларуская. Дзень нараджэння ў сяброўкі...

– А калі б не было дня нараджэння? – я таксама ўставіў свае пяць капеек, паглядзеўшы гаспадыні наўпрост у вочы.

– Да ну вас... – Віка махнула ручніком з лыжкамі пасля кароткай паўзы. – Есть идите.

Алегу ўвесь час неабходна было ў нешта верыць. Патрэба служыць некаму чыталася ў прымружаных шэрых вачах ды выразных сківіцах. У іншай, “белчырвона-белай”, Беларусі ён лёгка зрабіў бы кар’еру мянта або вайскоўца.

Цяпер, расчараваўшыся ў партыях ды кандыдатах, за якія адматаў нямала па менскіх ізалятарах, Алег

паверыў у сям'ю. Хутар з пакручанымі старымі грушкамі і драўлянымі коламі быў толькі прыдаткам, храмавымі інтэр'ерамі для яго новай рэлігіі.

Мы розныя з Алегам. Я, расчараваўшыся ў тых жа партыях і кандыдатах, перастаў верыць у будзь-што і будзь-каго.

Спалі мы ўсе побач, у адзіным ацалелым ад часу і гвалтоўнай рэканструкцыі пакоі. Ложак жалезны нехта паспеў здаць на метал, мы леглі ў спальніках на падлозе, літарай "Г" чамусьці: яны двое і я адзін.

Алег абдымаў Віку, агарнуўшы яе грудзі і ўсю крохкую постаць сваёй рукой, затуліўшы няголены твар у россыпы чорных валасоў. Гэтым часам рука Вікі сціскала маю пад пухавіком, які я паклаў сабе пад галаву. Так усю ноч і праспалі – не зварухнуўшыся.

***

– Не уходи, останься... Просто побудь тут.

Парожнія пляшкі прыбраныя з моцнага, як Алегавы далоні, дубовага стала на падлогу. Відэльцы сумуюць побач з талеркамі з зацемненага шкла. З вокнаў пустой пакуль кватэры ў шматпавярховіку ўдзень бачныя ўсе ваколіцы: палі, лясы, дарога на Польшчу. Цяпер усю прыгажосць схавала жнівеньская ноч, з падаючымі зоркамі ды чорнай душой.

Алег затрымаўся і заначыў сам на хутары, бывае. Мы ўдваіх.

– Скажи, Володечка, ну почему ему так тяжело просто позвонить мне?

– Гоніш, ён жыве для цябе.

– Ну, я понимаю... А позвонить?

Яе сп'янелыя цёмныя вочы ўтаропіліся ў мяне. Ці разумее яна, што пляце? Яе сэрца білася хутчэй, чым звычайна, анамальны рытм дыхання быў заўважны

па схаваных пад чырвонай цішоткай грудзях. Яна сядзела, адкінуўшыся на спінку крэсла, а чорныя валасы спадалі на твар ды злёгку прыкрывалі левае вока.

– Я пайду, позна ўжо.

– Ну, пожалуйста, caro mio...

Калі яна прыўзнялася, каб нешта ўзяць са стала, я машынальна падцягнуў яе да сябе і пасадзіў на калені. Адчуў пах яе валасоў, а вусны крануліся шыі. Я запомніў, што яна насіла ланцужок, бо ён трапіўся мне на язык...

Праз гадзіну я выйшаў з пад'езда ў пустую бетонную скрыню двара. Самыя раннія птушкі яшчэ не прачнуліся, на працу ніхто не спяшаўся. Надыходзіла нядзеля.

У той перадранішняй цішыні я ўпершыню ў жыцці пачуў, наколькі голасна ў пустым двары можа звінець посуд, які мые самотная жанчына на пятым паверсе. Жанчына, якая не хацела цябе адпускаць.

***

– Вазьміце за аднаго, – перадаю складзеныя купюры кіроўцу маршруткі.

Скрозь запацелую шыбу мільгаюць агні святлафораў ды ліхтароў начнога горада, акурат праязджаем раён панэльных хрушчовак. Дамоў не бачна, адно святло ад вокнаў – нібы вочы ва ўтульны космас сямейнага жыцця. Недзе яшчэ чакаюць, недзе ўжо дачакаліся ды селі за стол, недзе леглі ў ложак... Ліе халодны вераснёўскі дождж.

– Ты уже подъезжаешь?

– Так, пяць-сем хвілін.

– Хорошо, я под козырьком возле магазина "Охотник", возле арки который.

– Зараз буду.

Голас Вікі троху ўсхваляваны, мабыць, зноў пасварыліся, збегла з дому. Пагуляем? Пагуляем, чаму не. Я нават парасон дастаў, чорны з моцнымі сталёвымі спіцамі ды драўлянай разьблёнай ручкай, які набыў калісьці ў варшаўскім антыкварыяце каля Барбакану.

Гэпнуўшы дзвярыма белай "газэлі", я скіраваўся да перахода. Падстрэшак, прыпынак, "Охотник"... Адышла? Куды і навошта? Акурат жа званіла... На гадзінніку адзінаццатая, вакол ні душы. Паазіраўшыся, ныраю ў арку, трэба праўдзіць двор. Сметніцы, будка, прыпаркаваныя аўто, жанчына ў вязаным берэце з сабакам.

– Вы не відзелі дзевушку с чорнымі курчавымі валасамі, маево роста?

– Нет, – цётачка шарахаецца ад мяне ды цягне свайго гадаванца да пад'езда.

Тэлефон... пайшлі гудкі. Скідае. Яшчэ. Яшчэ раз. Пасля трэцяга – "Абанент часова..." Ну, якія варыянты? Вядома, найгоршыя. Выпадковы вулічны напад. Або помста маіх "старых знаёмых", якія вырашылі націснуць на блізкага чалавека. Закінулі ў машыну і павезлі. Або сама псіханула, развярнулася і пайшла дадому... Чаму не?

Не, яна так не зрабіла б. Ніколі.

Час. Час у гэты момант я навучыўся адчуваць фізічна. Кожная хвіліна скатвалася халоднай кропляй па твары, бегла за каўнер. Чым больш набягала кропляў-хвілінаў, тым менш заставалася шанцаў на аптымістычнае заканчэнне вечара, а мо і не толькі вечара.

Дождж трохі сціх, калі я наматаў трэцяе кола: прыпынак, крама, брама, двор, сметніца, праход між да-

мамі... Тэлефон па-ранейшаму недасяжны. Застаецца... найгоршае. Будзь што будзе. Набіраю Алега.

Доўгія гудкі. Адзін, другі, трэці, пяты... Калі чалавек не здымае пяты, можна не чакаць далей. Я не памятаю, колькі я чакаў і колькі набіраў. Ёй. Яму. Без толку.

Што далей? Ёсць, канешне, Віктар Іванавіч, даўнішні сябар пры пагонах, да якога можна звярнуцца... Але што сказаць? Знікла сяброўка... жонка сябра... майго сябра... майго... мая... мая Віка.

Вецер разагнаў хмары, дождж пайшоў на Навагрудак і Менск.

– Але, это я... – голас у слухаўцы шаптаў. – Все хорошо, Володечка. Прости меня. Я все объясню... Завтра.

...Зранку, мяркую, прыбіральшчыца здзівілася, знайшоўшы на прыпынку "Магазин «Охотник»" у сметніцы элегантны чорны парасон з разьблёнай ручкай.

***

– Вы разминулись, буквально на пару минут, понимаешь?

Біблейныя вочы гэтым разам былі схаваныя за чорнымі акулярамі, у якіх адбівалася неба з контурамі імклівых аблокаў. Мы сядзелі на разбітых лавах старога савецкага стадыёна непадалёк ад Нёмана. Лавы засталіся з часу майго дзяцінства: з надпісамі, выбоінамі, сардэчкамі ды наіўнымі мацюкамі. Любата!

– Когда ты мне звонил из маршрутки, его машина уже подъезжала. Он вышел... Я его только по куртке узнала, как будто совсем другой человек. Он ударил меня по лицу, аж в глазах потемнело... Потом взял за волосы... кинул в машину.

Я не бачыў яе вачэй за акулярамі, але адчуваў, што яна саромеецца глядзець у мой бок. Яна сціскала вусны ды зрэдчас шморгала носам. Слёз я не заўважыў.

– Он привёз меня домой, устроил допрос. Посадил на табурет посреди кухни и спрашивал, спрашивал, спрашивал...

– Пра што?

– Почему я к нему “так” отношусь.

– А куды пайшла сярод ночы, не пытаў?

– Сказал, что ему без разницы.

За футбольным полем вецер гуляўся кронамі маладых таполяў. Праз год дваццаць яны стануць сапраўднымі волатамі, а ўжо праз трыццаць які-небудзь боўдур надумае іх спілаваць. Прычым сам не спілуе, а напіша данос у зелянгас. Гэта ж праца зелянгаса – пілаваць. “Данос на дрэва” – смешна і сумна...

– Потом у нас был секс... и он заснул. А я позвонила тебе.

– Я набіраў яго, калі не мог цябе знайсці. Ён бачыў?

– Я все почистила с телефона. Он крепко спит. Особенно если поработает хорошо.

Шматзначнасць апошняй фразы выклікала ўсмешку, цяпер ужо я адвярнуўся. Віка нарэшце зняла акуляры ды ўтаропілася ў мяне пачырванелымі заплаканымі вачыма. Левае вока было падбітае.

– Прости меня, пожалуйста, Володечка. Я пойму, если ты вообще со мной разговаривать не захочешь... Я виновата.

Яна сціснула маю далонь, а лбом прыхілілася да пляча. Абняць Віку мне чамусьці ў гэты момант не хацелася, але і злосці я ўжо не адчуваў. Нічога не адчуваў.

Калі вецер зноў закалыхаў вершаліны таполяў, я ўсё ж такі накінуў на яе сваю куртку ды прытуліў да сябе. Ці мала што.

***

Перада мной чысцюткі вордаўскі дакумент з пульсуючым курсорам. Нібы разасланы абрус, які гаспадары пакуль не аздобілі стравамі ды выпіўкай. Трэба пісаць нешта, працоўны дзень ужо бадай дагарэў. Хутка дадому...

“Глядзі што, тут пара іменаў – чытанеш ды адпішаш, ці што выбрала.

Бірута. Так звалі жонку князя Кейстута, якая да пары прыслужвала пры паганскім капішчы Зніча. Мама князя Вітаўта.

Данута. Вельмі крутое імя, ёсць такі раман у Аляксея Карпюка, а яшчэ – ёсць паэтка Данута Бічэль, душа і голас Заходняй Беларусі.

Рагнеда. Полацкая князёўна, бацьку якой заваліў кіеўскі князь Уладзімір. Яе саму згвалціў ды ўзяў за жонку. Рагнеда тае крыўды не забылася ды праз нейкі час хацела зарэзаць Уладзіміра ўначы, але няўдала. На тым ёй бы і канец, але заступіўся сын, таму Уладзімір расчуліўся і захаваў абаім жыццё.

Апошняе імя, я ўпэўнены, самае ўдалае”.

Напісаць ліст... Далучыць... Каму: venice27vic@gmail.com. Тэма: Імёны для Вікі.

Я не трымаў аніякага зла, але крыўда пад рэбрамі, відаць, засела назаўжды. На каго і за што – не магу зразумець. Ці магло б быць інакш і як менавіта – таксама. Яна палічыла, што перастала быць мне цікавай, калі ўбачыла мяне на вуліцы з іншай праз месяц пасля... Хай лічыць.

Я думаў, што паставіў для сябе моцную заслону ў тую дажджлівую “ноч знікненняў”. Памыляўся. Усё скончылася на наступны дзень. Але не на стадыёне, дзе мы ўчапіліся адно ў аднаго на тым вятрыску, а праз паўгадзіны. З акна аўтобуса я ўбачыў, як яна

павольна, троху хістаючыся, у сваіх чорных акулярах ідзе ў бок аўтамайстэрні, дзе працаваў Алег.

Будзь шчаслівая, carina mia, а мне час ісці. На двары ліе халодны лістападаўскі дождж, акурат як у тую ноч.

Добра, што парасон ёсць – чорны, з моцнымі сталёвымі спіцамі ды разьблёнай драўлянай ручкай: тыдзень таму на дзень нараджэння нечакана падарыў Алег, мой сябар.

*Красавік 2016, "Наша Ніва"*

## Бывай, бацяǃ

Трое ў пухавіках і чорных вязаных шапачках валаклі аднаго. Той адзін то ішоў смірна, то нібыта спрабаваў вырывацца – тады рукі яму выкручвалі яшчэ больш старанна. Найтаўсцейшы з канваіраў, у сіняй падшыванай куртцы, перыядычна рабіў “палоннаму” падножкі, гупаючы сваім вастраносым ботам па ягоных зношаных кросах у раёне ахілесавых сухажылляў.

– Пайшлі, пайшлі, не абарочвайся, – трымаючы дыстанцыю, праслізнулі побач па сценачцы трансфарматарнай будкі два “памаранчавыя” супрацоўнікі ЖЭСу, вусаты дзядзька і жанчына.

Хлопца валаклі ў напрамку сіняга бусіка. Калі адлегласць склала пару дзясяткаў метраў, дзверы ў машыне ад’ехалі. Энергічная кампанія спынілася ля дзверак, “палонны” нават выпрастаўся, запхаў рукі ў кішэні.

– Стал, как барін! Залазь, мля! – гаркнуў таўсташчокі з вачыма навыкаце і выпісаў хлопцу падзатыльнік.

У салоне з завешанымі фіранкамі і чахламі са штучнай скуры сядзеў толькі адзін чалавек у кепцы. Калі ўсе расселіся, а матор загудзеў, чалавек усміхнуўся і дастаў з унутранай кішэні дзве купюры:

– Красава!

***

“Прыйдзе вясна, будзе бачна, хто дзе насраў”, – кажуць зазвычай пра нейкія карупцыйныя схемы. Для жыхароў Дамброўскага гэта зусім не метафара. Светла-карычневыя купкі на цёмна-шэрым асфальце з дзіркамі, як у швейцарскім сыры, ды на газоне з фарбаванымі ў жоўты турнікамі ці то для падцягвання, ці то для выбівання дываноў штодня аб гэтым нагадвалі.

Іван Сямёнавіч Бакланаў паліў на ганку панэльнага пяціпавярховіка ды ўзіраўся ў суседні дом з поштай на першым паверсе. Паліць можна было б і на балконе, але ён стараўся выходзіць на вуліцу: агледзець двор, праўдзіць агульную абстаноўку. Трэба было кінуць вокам на новапрыпаркаваныя машыны, вывучыць аб’явы ЖЭСу на дзвярах. З Іванам Сямёнавічам віталіся, але не размаўлялі. Ён у адказ рытуальна ківаў галавой.

У Гродна Іван Сямёнавіч перабраўся ў 80-я, пасля службы ў Вільдэрпарку пад Дрэздэнам. Пра тыя залатыя часы ў трохпакаёўцы на першым паверсе па вуліцы Дамброўскага нагадвала “дэфіцытная” гэдэраўская мэбля, дыван на сценцы з пастаральным сюжэтам – ліса драпежна глядзіць на стаў з лебедзямі, а ззаду красуе вадзяны млын, – а таксама белы парцалянавы слон з адбітым біўнем і кляймом “Karl Ens”.

Па-над пісьмовым сталом на кніжнай паліцы стаяла некалькі тамоў Акуніна ў таннай мяккай вокладцы ды “Звезда генерала Колчака”. Уся рэшта бібліятэкі, у тым ліку белетрыстыка памерлай жонкі-настаўніцы нямецкай мовы, пераехала на дачу ў “ведамственным” кааператыве: Чэйз і ранні Кінг аселі на бліскучых падвясных паліцах з ДВП на абабітых вагонкай сценах, “Письма Н. К. Крупской”, “Ленин в Париже” пайшлі ў камін, як неактуальныя.

Зрэшты, Акунін з Калчаком у хаце таксама зарасталі пылам: Іван Сямёнавіч даўно нічога не чытаў, а апошні год дык наогул не вылазіў з лякарні. Усе нечаканыя змены ў рэспубліцы ён сустрэў у стане, пра які марыць большасць начальнікаў і афіцэраў-тылавікоў: у стане поўнай адключкі.

***

Над камп’ютарам Сержука красаваў сцяг, утыканы значкамі, як лялька вуду, ды партрэт лысаватага палітыка са стаічным квадратным падбароддзем. Калі гадоў дзесяць таму Сяржук зайшоў на партыйны офіс аднаго пратэстнага руху, каб напісаць заяву на ўступленне ў ягоны моладзевы прыдатак, то лічыў, што заскочыў “у апошні вагон”. Рэжым у чарговы раз меўся вось-вось паваліцца, а Сержуковы аднакурснікі – заняць цёплыя месцы ў гарвыканкаме ў розных там упраўленнях па справах моладзі... Сталася па-іншаму.

Рэжым памёр сам сабой, за адну ноч, але тыя, “хто быў нічым”, так у гэтым стане і засталіся. Піраміда проста пасунулася на адно дзяленне. Замы сталі начальнікамі, замы замаў – першымі замамі і г. д. Канешне, з Еўропай стасункі наладзіліся, за мову ўжо ніхто нікога не цягаў па пастарунках, але ўсё адбы-

лося неяк... не так, як мелася. Не так, як Сяржук сабе ўяўляў. Рэжым не быў пераможаны, а сышоў са сцэны, як акцёр, што страціў цікавасць да п’есы.

Выходзячы на працу ў Гістарычны музей ранкам 25 сакавіка, які так і не стаў выхадным днём, Сяржук зладзіў сваю персанальную акцыю пратэсту супраць рэчаіснасці, якая яго ўпарта ігнаравала.

Не без цяжкасцяў адсунуўшы два шпінгалеты, бо механізм стаў тугім з-за наслаенняў фарбы розных гадоў, малодшы навуковы супрацоўнік масавага аддзела выйшаў на балкон, па-зладзейску агледзеўся ды замацаваў прышчэпкамі на дроце для бялізны сцяг. Той самы, што вісеў над камп’ютарам ля партрэта стоіка. У двары ўнізе яшчэ нікога не было.

“Каму трэба, той убачыць, – пракруціў у галаве Сяржук, зноў засоўваючы шпінгалет. – Удзень усё адно ж на пошту пацягнуцца”.

***

У Міколавым офісе было душна, нягледзячы на сырасць і халодны паўночны вецер на двары.

– Цібя, кажэцца, баця іскал, – праходзячы поруч, кінуў Віталік з пухлымі шчакамі ды вачыма навыкаце.

– Пасиб, сча перезваню, – Мікола пацягнуўся праз увесь закіданы паперамі стол да гарадскога тэлефона – бацька не выносіў мабільныя.

– Ну, што там? – пасля пары гудкоў перапытаў Мікола.

– Приезжай, надо поговорить, – як заўжды, загадкава і нават змрочна кінуў старэчы голас.

Зрэшты, сам па сабе голас ды інтанацыя яшчэ ні пра што не казалі. Іван Сямёнавіч любіў напускаць туману загадкавасці на самыя элементарныя рэчы.

Нават паездка на дачу ў былыя часы нагадвала спецаперацыю. Калі ён персанальна не расказваў пра яе сыну, а інфу прастадушна “злівала” маці, Іван Сямёнавіч заўжды нерваваўся:

– Кто тебе сказал?

– Ба-ця, перестань. Мама сказала.

– Ммм... Я же ей говорил...

Інтуіцыя разам з тым падказала Колю, што гэтым разам не ўсё так проста, нешта здарылася. Гэта дрэнна, бо... бацька дагэтуль жыў у свеце паўгадовай даўніны, праспаўшы пад кропельніцамі ўсе грамадска-палітычныя зрухі мінулай восені. Яму ж ні пра што не казалі, ведаючы загадзя нервовую рэакцыю. Смерць жонкі, алкаголь, інсульт – усё гэта сур’ёзна выбіла з формы немаладога ўжо падпалкоўніка. Трэба было берагчы нервы.

Можа, ён нешта заўважыў? З кімсьці пасварыўся ў пад’ездзе, далей жа ўсё адно не ходзіць... А можа, нейкія ліпкія маёмасныя пытанні? Няма чаго гадаць, трэба ехаць.

***

Праз паўтары гадзіны Міколаў “опель” ужо аб’язджаў дзіркі ў сырападобным асфальце ў двары на Дамброўскага. Аб’ехаць іх ён мог і з заплюшчанымі вачыма: як-ніяк вазіў некалькі разоў на тыдзень бацьку ежу, чаргуючыся з сястрой, тоўстай супрацоўніцай пашпартнага стала Жаннай.

– Садись. У нас во дворе ЧП. А может, и во всей стране. Что-то не так, – не міргаючы, прамовіў баця, падпіраючы спінай халадзільнік “Атлант”.

Мікола збялеў. Значыць, сказалі...

– Вчера, примерно в восемь тридцать, бело-красный флаг вывесили над почтай, пряма на балконе.

Я, конечно, позвонил в милицию, а там, – бацька вытрымаў паўзу, – там кінулі трубку. Позвонил Алексеевичу, он на пенсии, конечно, но вдруг... не взял. Ну, может, в больнице, конечно.

Сын перавёў дыханне. Сітуацыя складаная, але не крытычная.

– ...но я этого так не оставлю. Написал в прокуратуру два письма. Про флаг и на дежурного “02”, который трубку кинул, там время указано в бумаге. Отнесёшь на почту отправишь заказными. У меня связи...

Увесь гэты спектакль, які яны з сястрой ігралі вакол бацькі апошнія паўтара месяца, рызыкаваў праваліцца. Зрэшты, а які тут спектакль? Старому ж не брахалі ў вочы, проста нічога не казалі. Жанна спачатку назвала Колю прыдуркам за ідэю захаваць усё ў таямніцы, але пасля пагадзілася, каб не браць адказнасць і не даваць у рукі самагубцу зараджаны пісталет у выглядзе стоса свежых рэспубліканскіх газет.

Паштовую скрыню Коля проста разбіў двума ўдарамі фомкі – каб не было нават спакусы нешта выпісваць. Хуліганы ў пад’ездзе, бывае... Тэлевізар па легендзе знаходзіўся ў зацяжным рамонце ў “Гаранце”: то кінескоп не могуць падабраць, то майстар у запой пойдзе. Бацька “роптал”, а пасля забыўся, таблеткі рабілі сваю справу не горш за алкаголь усе апошнія гады.

– Да, я всё занесу, баць, не валнуйся.

– Угу.

Трэба было дзейнічаць, пакуль падпалкоўнік у адстаўцы Бакланаў не пачаў апошні ў сваім жыцці крыжовы паход, не ведаючы нават, каму зараз належыць Ерусалім... Дзейнічаць – тэрмінова.

***

Адзіноту Сержука, падавалася, ніштo і ніхто не мог парушыць. Сцяг быў спакойна зняты ўвечары 25-га і перавешаны на яго законнае месца. Ноўт быў складзены і схаваны недзе на шматпавярховых паліцах з альбомамі па мастацтве і стосамі “Советского фото”. На стале, які на час ператварыўся ў хірургічны, быў распластаны фотаапарат “Canon”, набыты ў “мядовыя гады” паездак за мяжу і лёгкіх грошай. Любоў да фота, дарэчы, яшчэ адна супольная рыса з лысаватым стоікам, што ўзіраўся са сцяны.

Мацюкнуўшыся пару разоў, Сяржук нарэшце пакінуў свайго “пацыента” і пайшоў адмыкаць. Звонку настойліва званілі. “Міліцыя? Не, не можа быць”, – імгненна пранеслася ў галаве малодшага навуковага супрацоўніка.

– Дарова.

– Пры-ывітанне, – здзіўлена акінуў вачыма свайго колішняга дваровага кента Сяржук.

– Есть минутка?

– Без праблем, у мяне выходны сёння. Праходзь.

Мікола зайшоў, агледзеўся ў вітальні. “Разувацца, не разувацца? – прамільганула непрыемная думка. – Рамонту даўнавата не было, а не прыбіраліся хіба яшчэ даўжэй...” У зал Мікола прайшоў, не здымаючы карычневых лакаваных ботаў.

– Што чуваць? Заняты троху.

– Я понял. Такое дело. С батей беда. А тут ты ... ну, накасячил трахец. Нужна помощь...

Сяржук залыпаў вачыма і ўжо падумаў, што дарма адчыніў дзверы. Падчас Міколавых энергічных тлумачэнняў музейшчык некалькі разоў бялеў, чырванеў, але так і не вымавіў ані слова, каб не перарываць дакладчыка. Нарэшце Мікола скончыў.

– Не, я не згодны, – заматаў галавой, склаўшы рукі замком, Сяржук.
– Почему?
– Гэта прыніжэнне гонару і годнасці.
– Всего один раз.
– Не.
– Это важно для старика, понимаешь?
– Я разумею....
– Ну. Подумай, это ж не просто так. Ты ж без дзенех сядзиш, та?
– Мажліва.
– А тут сотня за полчаса...
– Паўгадзіны ганьбы.
– Какая разница? Эта игра!
– Тым не менш.
– 150, Сёга, не вы...вайся.
– Прабач, не.
– Ну, мля...
Сяржук падхапіўся з дабітай чэхаславацкай канапы і стаў ля акна, бліжэй да сцяга з партрэтам. Сонца падкрэслівала ягоны сілуэт.
– Не крыўдуй, Мікола, ...200. Менш – не.
– Замётана, – холадна адрэзаў Коля, сцяўшы сківіцы.

***

Усю працэдуру экзекуцыі Іван Сямёнавіч уважліва назіраў з акна, канспектуючы ў галаве кожную дэталь. Увечары пра ўсё скупа “далажыў” сыну:
– Забралі пи...ра, с флагом который, над почтой.
– Да-а? – шчыра здзівіўся Мікола. – Ты видел?
– А то, – усміхнуўся падпалкоўнік у адстаўцы. – Я всё вижу.
На стале парай дыхалі два гранёныя кубкі ў падшклянніках з крамлёўскімі вежамі.

– Письма закинул?

– Што?.. Да-да...

– Это хорошо. Я ответа всё равно буду ждать. І по флагу отпишут, почему целый день провисел, и по дежурному.

З кубкам у руцэ Іван Сямёнавіч падышоў да акна, скрозь цемру, асветленую жоўтым святлом ліхтароў, намацваючы позіркам абрысы пошты.

– Захотели, мля, как дедушка Ленин: телеграфы, почты, вокзалы... Мало дали ему!

– Баць, не кури много, а?

– Сам знаю.

– Атветы цебе с пракуратуры па пошце прыдут, не звани зря.

– Угу.

Сербануўшы гарбаты, Мікола пайшоў абувацца. Бацька запаліў, не адыходзячы ад акна.

Засынаў Іван Сямёнавіч гэтай ноччу з ледзьве заўважнай усмешкай на твары.

***

Са сценаў на супрацоўнікаў зняважліва глядзелі дыпломы ў рамках: “Лідар”, “Намінант”, “Удзельнік выставы”. Узнагароды, зрэшты, належалі не людзям, а прадуктам: “Маскоўскай каўбасе”, “Гедымінавым вяндлінам”, “Сасіскам па-панску”.

– Коля, у цібя мабіла пілікала, – адазваўся да Міколы таўсташчокі Віталік са свайго камп’ютарнага крэсла.

– Пасіб, гляну, – абыякава кінуў шэф, падыходзячы да стала.

Сэнсарны экран спачатку не слухаўся, а можа, не слухаліся пальцы? Няважна... “Серж” у прапушчаных. “Што ему нада? Расчытались ведь...” Пайшлі гудкі.

– Званил.

– Так-так, слухай, маеш хвілінку? – па той бок зазвінеў фальцэт малодшага навуковага супрацоўніка.

– Маеш, – ледзьве чутна прашыпеў Мікола.

– Я вось з якой нагоды... Ты, канечне, сам глядзі, але калі раптам для твайго старога трэба... ну, перыядычна, нешта падобнае. Калі ёсць патрэба, я сам не навязваю. Ты кажы.

– Умер баця.

Не чакаючы адказу, Мікола скончыў размову ды кінуў мабілку ў шуфляду стала. Праз імгненне, праўда, дастаў назад і паклаў вонкі. Яшчэ мае пазваніць Жанна наконт рэстарана, а з ваенкамата – паведамяць пра аркестр.

***

Хавалі Івана Сямёнавіча з усімі вайсковымі ўрачыстасцямі, з духавым аркестрам, яловымі вянкамі і медалямі на чырвоных падушачках. Труна падпалкоўніка была сарамліва прыкрытая новым дзяржаўным бел-чырвона-белым сцягам.

*Люты 2016, "Наша Ніва"*

## Жнівень дагарае

Горадня. Спёка. Дагарае жнівень. Слава прыехаў дадому на пару дзён. За спінай – Цэнтральная Азія і адпачынак, наперадзе – Варшава, будзённасць, праца. “Пайшлі на квас”, “хадзем” – паролі для мабільных размоваў у нас простыя, не пераблытаеш. А што трапацца?

– Здаро-о-ова! – лезе абдымацца забарадзелы ды неяк коса пастрыжаны сябра.

– Прывет, прысядзем дзе?

– Давай.

Добра, што ў родным горадзе ўжо ёсць дзе прысесці: пара кнайпаў усё ж такі выстаўляе драўляныя сталы на двор. Але да іх яшчэ трэба спусціцца па Савецкай, былой Дамініканскай, а значыць, прайсці поруч з усмешлівымі дзяўчатамі з анкетамі ад нейкага арыфлэйму, крыху менш усмешлівымі, хай і бяззубымі, вулічнымі музыкамі, ну і ўжо зусім не ўсмешлівымі зборшчыкамі подпісаў – выбарчы год усё ж такі.

Во, і да нас ўжо скіраваўся нейкі дзіўны зборшчык – цёмна-сінія галіфэ, лампасы, кірзачы...

– Мужік, дай закуріть!

– Мужікі в Россіі.

– Ах...ел? –шчыра здзівіўся вусаты. – Знаешь, кто перед тобой?

– Хто?

– Казачій полковнік!

– И где твой полк?.. – беларускамоўны Слава неяк нечакана перайшоў на мову апанента. – Война ідёт, что ты тут делаешь?

– Я... занимаюсь мобілізацией і разведкой, – менш упэўнена дадаў вусаты.

– Что-о? Это как... летчік подводного флота? – Слава паказаў белыя зубы.

– Я... шча в...бу, реально.– Рукі вусатага пацягнуліся да партупеі, намацваючы ці тое нагайку, ці тое наган – ні таго, ні другога там не аказалася.

– Олежа, успокойся, это же провокаторы. – Да вусатага падышоў яшчэ адзін тып у казачай форме ды чорных акулярах.

Мінакі ўжо спыняліся побач, але на бяспечнай адлегласці за пару метраў. Жанчына з торбамі, відаць, па дарозе з крамы, моўчкі глядзела, а вось хлопец з заплечнікам у кашулі ў клетку пачаў здымаць на тэлефон.

Вусаты, краем вока агледзеўшы аўдыторыю і пераканаўшыся, што паміж ім і Славікам стаіць яшчэ сябар у чорных акулярах, пагрозліва выгукнуў:

– Я реально в...бу!

– Тішш, Олежа, это бэнээфовцы, – ледзве чутна прашыпеў сакраментальную формулу акулярык. – Ім за это деньгі платят.

– Хадзем, – я пацягнуў Славіка за рукаво.

“Казацкі” пікет разам з кінатэатрам “Гродна” аддаляліся, вусаты яшчэ пару разоў сціснуў кулакі, нешта тлумачачы таварышу, жанчына з торбамі пайшла далей па справах, а хлопец з заплечнікам незадаволена схаваў тэлефон.

– Так уя...ць яму хацелася, – выдыхнуў Слава.

– ...Нас Ян чакае, спазняемся.

Насамрэч, сярод столікаў на адкрытай тэрасе каля дома Ромэра на той жа Савецкай, дзе 150 гадоў таму праходзілі пасяджэнні паўстанцкай арганізацыі, куды заходжваў Каліноўскі, нас аніхто не чакаў. Яна яшчэ не было.

– Дзе ты там? – спытаў я ў слухаўку.

– Эмм, яшчэ на Карбышава, амаль на Сацыялістычнай... на скрыжаванні.

Пунктуальнасць дакладна не Янаў канёк. Але годзе, даўно ж не бачыліся. Дакладней, Слава з Янам даўно не бачыліся. Я часцей неяк.

– Бач, і пікет казацкі паглядзелі... – сябра трэба было падбадзёрыць.

Слава маўчаў, круцячы ў руках керамічную сальнічку з барнага стала. Калі надакучыць, я ўжо ведаю, возьмецца за сурвэткі. Вядома, які-ніякі, але выкід адрэналіну...

– А ты паліў на пікетах, як сам подпісы збіраў?

– Не-а, – не зводзячы вачэй з сальнічкі, неяк сумна кінуў Слава. – У 2006-м мы нават піва не пілі, калі ўжо актыўная фаза выбараў была. І вуліцу па пешаходных пераходах пераходзілі, каб не дачапіліся...

– Вам что, молодые люді? – невядома адкуль з’явілася жанчынка год сарака ў белай кашульцы.

– Квас, два, калі ласка. І чыпсы... “Анега”.

– Добра, – усміхнулася жанчынка і пайшла да суседняга століка.

Там, як назло, прысела некалькі сівых палякаў, якія адразу ж агаломшылі цётачку:

– А чЭму бялорусы не розмовяёў на свэй мове?

– Ну як не размаўляюць, размаўляем!

– Ешчэ жоднэго разу не споткалэм ту...

– Піво, тшы, – перарваў суседа дзядэк поруч.

– Есть “Лідское”, “Балтіка”...

Слава абярнуўся да “польскага” століка, а потым зноў да мяне:

– Адчуваю, што спакойна гэты вечар не скончыцца... – няголены твар зноў засмяяўся, вочы заззялі, – а яшчэ як “водочкі” возьмем!..

– ...Табе з падарожжа што запомнілася найбольш? – трэба было змяніць тэму. – Ці наадварот, што тут уразіла пасля Узбекістана? – я ведаў, што распавядаць пра свае падарожжы Слава можа доўга і цікава.

– Ведаеш, дзве рэчы. Першая, я як з аэрапорта ў Мінску ехаў яшчэ, дык афігеваў: колькі ў нас прыгожых дзяўчат! Ты не ўяўляеш! Я за ўвесь час там, за тры тыдні, хіба дзвюх прыгожых узбечак сустрэў. З адной сфоткаўся. Пакажу, хош?.. І гэта ж яны без чадры ходзяць!

– А другая?

– З другой не фоткаўся...

– Не, другая рэч, якая здзівіла.

– А... другая, гэта, што ў нас дэмакратыя.

–..?

– У параўнанні з імі ў нас дэмакратыя, чувак, а Лукашэнка – самы дэмакратычны прэзідэнт! Там атмасфера такая... блокпасты праз вуліцу. Калі едзе хто важны, дык увесь горад перакрываюць, прычым так: дзе хто быў, там і завісае на паўдня. Вось ехаў ты на аўтобусе, а яго спыняюць, і дзверы зачыненыя. Сядзіш там, парышся.

– Мда...

Прынеслі квас з чыпсамі. Квас свой, “Лідскі”, хай і з пластыкавай бутэлькі, а вось чыпсы... Чаму “Анега”? Зразумела, што над такімі пытаннямі ў школе ані я, ані Слава не задумваліся, храбусцелі сабе – і ўсё. Але чаму чыпсы з беларускай бульбы названыя ў гонар возера ў Расеі?.. Таямніца.

– І яшчэ, ведаеш, зразумеў, адкуль узялася “шырокая руская душа”, – адпіўшы, зноў пачаў Слава. – Узбекі робяць вяселлі на паўтысячы чалавек, сур’ёзна. Вось жыве сабе сям’я, бедная сям’я, а сын, напрыклад, паехаў у Маскву двары месці, зарабіў грошай і жэніцца, зразумела. То яго ўсе грошы ідуць на гэтае вяселле – уся вёска ці мястэчка гуляе. А на наступны дзень маладыя і бацькі іхныя зноў ядуць адну ляпёшку на дзень... Вось яна, таямніца “шчодрасці” і “бескарыслівасці”, сячэш?

– Хм, – пасміхаюся і адпіваю крыху штучнага квасу.

– Альбо панты – тое ж самае. У чалавека там можа быць класная тачка, дарагая вельмі, але ёсць адзін момант: дарог у краіне нармальных вобмаль, бездарожжа вакол. Таму ён на ёй не ездзіць, стаіць у гаражы. Але выбраным гасцям паказвае: глядзі, маўляў, што маю!

Прыкладна ў гэты момант на скрыжаванні Савецкай і Тэльмана замаячыла хударлявая высокая постаць у галандскай куртцы колеру хакі з заплечнікам – Ян.

– О-о-о, ну давай хоць абдымемся, – Слава як быццам імгненна тэлепартаваўся з бездарожжаў Узбекістана назад у Горадню, – ну, сядай, распавядай.

– А што распавядаць...

– Ну як яно тут, ажаніўся?

– Не...

– Возьмёте меню, – жанчынка ў белай кашульцы зноў узнікла побач, – іли сразу закажете?

– Квас, – прамовіў Ян, нібы дзякуючы цётачцы за ратунак перад нязручнымі пытаннямі.

– ...Мля, колькі дзяўчат прыгожых, – Слава ўжо ўзіраўся на плынь па-летняму апранутых людзей, якія штосекунды паліравалі сваімі сандалямі ды сланцамі міжваенную брукоўку колішняй Дамініканскай.

Кажуць, што нацыя стае нацыяй, калі пераадольвае этнацэнтрызм і вырываецца вонкі. Еўропа стала Еўропай, калі вырвалася за межы Міжземнамор’я і Балтыкі. Польшча сталася Польшчай, калі польскія археолагі пачалі капаць у Егіпце, а Бжазінскі намаляваў для сусвету “вялікую шахматную дошку”. Каб адбыцца, нацыя мае асэнсаваць сваю місію, паглядзець на сябе і ўвесь свет збоку.

Магчыма, таму Беларусь ведаюць дзякуючы Скарыну, які рэалізаваў глабальны праект – прынёс друкаваную кнігу ва Усходнюю Еўропу. Дзякуючы Касцюшку – змагаўся за свабоду па абодва бакі акіяна. Дзякуючы Быкаву – напісаў геніяльныя экзістэнцыйныя творы, актуальныя ў любы час, такія сабе евангеллі памежных псіхалагічных станаў, у якіх пілоткі з зорачкамі былі ўсяго толькі рэквізітам.

А ці стаўся б Скарына без Прагі, Касцюшка без Амерыкі, Быкаў без адысеі па Еўропе? А што, калі б Скарына перапісаў за жыццё ад рукі некалькі Псалтыроў, Касцюшка адслужыў невядомым афіцэрам у арміі позняй Рэчы Паспалітай, а Быкаў пакінуў па сабе ўсяго толькі наіўна-шчымлівыя ўспаміны пра Бычкі ды іх насельнікаў?..

Слава нервова ставіўся да закідонаў накшталт “мы тут сядзім, пакутуем, змагаемся, а ты па Еўропах ездзіш”. Па-першае, не па Еўропах, а па свеце, бо

Слава – грамадзянін свету. Па-другое, а чаго седзіцё? Як змагаецеся? Які з гэтага плён на штодзень? Што вы канкрэтна “вызмагалі” сёння такога, што дае вам права папікаць іншых у бяздзейнасці?.. Таму, па меры змяншэння колькасці фрэндаў на фэйсбуку, змяншалася і колькасць падколак ад колішніх сяброў па першым беларускім ліцэі ў Горадні ды “Маладым Фронце”, сённяшніх айцішнікаў, дробных бізнэсоўцаў ды бацькоў сямействаў.

– Ты, Яне, чым займаешся?

– Паціху, у музеі цяпер у асноўным, на раскопках.

– Ясна.

Скаральнік пустыняў зноў прыціх. Ян пачаў распавядаць сумную гісторыю пра карані русафільства ў беларускім нацыянальным руху. Дыскусія, маўляў, у яго была нядаўна з нейкім гісторыкам. Пра Тарашкевіча, Ластоўскага, Луцкевіча... Дзясяткі імёнаў, якія чамусьці паспелі набіць аскоміну яшчэ ва ўніверсітэце.

Можа, варта ўвесці нейкую адказнасць для няўдахаў, якія прапагандуюць “айцоў-заснавальнікаў” так, што ад іх імёнаў пачынае нудзіць? Ці накласці мараторый на арганізацыі, якія сабе гэтыя імёны прыўласнілі, разам з магіламі ды мемарыяльнымі дошкамі, зрабіўшы так, што ад іх пахне мярцвячынай? Ці проста забараніць чытаць кніжкі па гісторыі пэўнай катэгорыі нацыянальна свядомых грамадзянаў з псіхічнымі адхіленнямі?..

– А я, ведаеш, калі прыязджаю, больш за ўсё з братам часу баўлю, – у момант “зліўшы” гістарычную дыскусію, зноў улез Слава. – А ведаеш чаму? Бо з паспяховымі людзьмі заўжды цікава, а тут яшчэ і брат. Фірма свая, шафы ды кухні збірае. А з тых, з майго пакалення, часам сумна кагосьці бачыць – калі

час ідзе, а чалавек такі самы. Швэдар выцягнуты з дзіркамі ды размовы ўсе пра Лукашэнку.

Датычна ўлады ў Славы, як у колішняга актывіста процьмы кампаніяў, была свая канцэпцыя: самае дурное – гэта даць ворагу зняволіць сябе двойчы. Бо большасць "дэмакратычных актывістаў" спачатку на 15 сутак садзіць "крывавы рэжым", а ўжо на рэшту жыцця – "на пажыццёвае" – яны садзяць сябе самі, дазваляючы "рэжыму" апанаваць усе свае думкі, жаданні, фантазіі ды фобіі. Такая яна – знішчальная прырода зла.

Таму Слава шукае сэнсы жыцця ў Арызоне, Непале альбо на дне высыхаючага Аральскага мора, адкуль вярнуўся пару дзён таму, каб праз пару – паехаць у Варшаву, а не ў пыльных офісах "за сцяг і мову", дзе пануе маўчанне і скруха.

...Разлічыўшыся, выходзім з кнайпы. Палякаў за столікам ужо няма. Ян хутка развітваецца ды збягае на аўтобус – яму ў іншы бок.

Шпацыруем уздоўж вуліцы Дзяржынскага, акурат па той частцы, якая некалі была мастом над Швейцарскай далінай, пакуль за познім Саюзам нехта не прыдумаў змяніць ландшафт ва ўсім старым цэнтры – даліну засыпаць, рэчку пусціць у трубы, збудаваць плошчу і паставіць Леніна. То бок пад Леніным – пустка, на плошчы – таксама велічэзная пустка. Архітэктары пустак.

– Глядзі якая! – хітае галавой Слава, ужо падыходзячы да прыпынку.

– Ды ну, твар.

– А фігура?

– Што фігура?

– ...Табе колькі гадоў?

– 25.

– Во, а мне 33. Калі табе 25 – цікавы твар. Калі 35 – ужо фігура. Калі 45 – цікава, каб працавала ўсё. Калі 60 – цікава, каб ужо... нічога не працавала. А калі 70 – табе цікава ...усё! Ты чытаеш газеты, ідзеш у апазіцыю, у касцёл, выходзіш увечары на лавачку пад пад'езд – усім цікавішся!

Усміхаюся. Такі ён, Слава. Чаму такіх, як ён, тут так мала? А ці былі б яны такімі, жывучы тут? Пра гэта неяк не хочацца думаць...

– Калі ўжо кінеш варшаўскі офіс ды на поўнач за крабамі?

– Праз год. Во, з рамонтам у кватэры разбяруся – і за крабамі.

– Возьмеш?

– Ясна!

Усміхаюся, бо чуў гэтыя ж словы гады чатыры таму. Слава таксама ўсміхаецца.

– Я вось дакладна ведаю, што галоўнае маё падарожжа – наперадзе. І здзейсню я яго сам.

Каб Быкаў пісаў цяпер, адно з яго апавяданняў магло б скончацца такімі словамі. Чысты экзістэнцыялізм: холад, адзінота, шчырасць.

– Сядай, твая "васьмёрка", у "перадапошняе" пакуль валі.

Абдымаемся, праз месяц-паўтара мо пабачымся. Калі не тут, дык у Варшаве. Хутчэй за ўсё, не тут...

Вечар цёплы, на прыпынку поўна людзей: сланцы, цёмныя акуляры, міні-спадніцы. Жнівень яшчэ дагарае.

– Сігареты не будет у Вас?

– Не палю.

– Гарно, – усміхаецца хлопец.

Дзе я цябе бачыў... Ну канечне! Гэта ж той пацан з заплечнікам, які здымаў Славікаў "срач" з казакамі

на тэлефон. Толькі цяпер кідаецца ў вочы тонкая сіня-жоўтая стужка на лямцы праз плячо. Усміхаюся, "клятчасты" хлопец усміхаецца ў адказ. Турыст? Бежанец? Беларускі ўкраінец? Часы незразумелыя, шмат пытанняў.

Я азірнуўся, Славікава "васьмёрка" толькі цяпер кранулася са святлафора і паехала кудысьці ў ліпкае марыва апошніх цёплых дзён лета.

– Тобі котра маршрутка? – перапытаў украінец.

– Ды я мясцовы, мне тут побач...

*Жнівень 2015, "Наша Ніва"*

## Задыяк

Кожны раз, калі праходжу побач з кавярняй “Задыяк” у Львове, мяне кідае ў дрыжыкі. Цяпер яе дзверы наглуха зачыненыя ралетам, на ганку не паляць наведнікі ды не стаіць чорная рэклама-раскладушка з абяцаннямі зніжак для студэнтаў. Кавярня была рэхам 1990-х, з кічаватым камінам, пустым акварыумам і фрэскамі ў выглядзе знакаў задыяка на сценах ды столі. Калісьці там тусілі бандыты са сваімі шлёндрамі, апошнім часам – студэнты Палітэхнікі. Мяне з тым месцам звязвала толькі адна сустрэча.

Гэты беларус з’ехаў ва Украіну нібы з палітычных прычынаў. Я дамовіўся сустрэцца з ім, разлічваў на інтэрв’ю з парай-тройкай фота: чаму з’ехаў, як жывецца, погляд на ўкраінскія справы і – далей у такім духу. Такая сабе халтура падчас адпачынку.

Лайфаўскі нумар хлопца мне падказалі знаёмыя з нацыянал-анархістаў, да якіх той хлопец, Багдан Навіцкі, прыбіўся пасля ад’езду з Беларусі.

Сустрэцца я прапанаваў у "Панараме", кавярні на апошнім паверсе гатэля "Днестр". Багдан, ці Бодзя, як тут кажуць, пасля паўзы пагадзіўся на сустрэчу, але прапанаваў іншую кропку – кавярню "Задыяк", зусім побач, пяцьдзясят метраў ад гатэля.

Амерыкана – найкруцейшая кава, асабліва калі ты журналіст. Яе можна замаўляць, не зазіраючы ў меню. Блакнот, асадка, дыктафон – усё гатова. На Багдана я чакаю за сталом у самым куце. З паўпадвальнага памяшкання кавярні праз вокны бачныя ногі мінакоў, падкатаныя джынсы, берцы, красоўкі. Наведнікаў няма.

Багдан спазніўся хвілін на дзесяць, патлумачыўшы заторамі на Гарадоцкай. Узяў эспрэса і шклянку вады. На выгляд хлопцу гадоў трыццаць, светлыя валасы, выцягнуты твар з прамым носам, выразныя шэрыя вочы.

Багдан папрасіў папяльнічку і закурыў. Тут, аказваецца, можна паліць, я не ведаў. Мо таму сустрэча і перанесеная сюды?..

– Што Вас цікавіць?

– Па-першае, чым ты займаўся ў Беларусі? Ці затрымлівалі? Чаму з'ехаў?.. Калі хочаш, прыдумай сабе нейкае псеўда для артыкула, як лічыш, што, напрыклад, у родных будуць праблемы...

Насуперак канонам журналістыкі я наваліў адразу купу пытанняў. Нічога, пасля падрэдагую і разаб'ю на асобныя тэмы. Мой суразмоўца запаліў цыгарэту і пачаў – дзелавіта і энергічна:

– Я тады вучыўся на гістфаку ў Горадні, кафедра "Гісторыя славянскіх народаў". Пачынаючы з чацвёртага курса я выконваў пэўныя просьбы сваіх сяброў, працаваў у студэнцкім асяроддзі...

Я аўтаматычна глянуў на дыктафон, дзе высвечваліся лічбы ды ламаны графік гуказапісу. Запіс ішоў.

Багдан, злавіўшы мой позірк, пасміхнуўся і працягваў.

– ...я задаваў выкладчыкам нязручныя палітычныя пытанні на парах, цікавіўся, ці гатовыя студэнты да акцыяў пратэсту ў выпадку падвышэння аплаты, прамацваў, як ставяцца да апазіцыйных палітыкаў – акурат выбары былі на носе. Сярод іншага – я спрабаваў трапіць у розныя кампаніі, шукаў інтэлектуалаў...

Багдан зноў зацягнуўся і паглядзеў мне ў вочы.

– Ведаеш, ты хіба не пра гэта хацеў пагутарыць. Але я хачу нешта распавесці. Наўрад ці на тваім сайце гэта паставяць, але тым не менш. Ок?

– Без праблем.

– Дык вось. Я працаваў з рознымі кампаніямі інтэлектуалаў. Асабіста мне было цікава з тымі, хто чытаў Хайдэгера і Генона, на худы канец Дугіна. Майго ... сябра, на жаль, цікавілі панылыя адэпты Сагановіча і Ластоўскага... Я, зрэшты, заўжды стараюся рабіць тое, што цікава мне. Ты ж таксама задаеш тыя пытанні, якія цябе цікавяць, каб атрымалася добрае інтэрв'ю. Інакш выйдзе прапаганда, штампы, як найчасцей і бывае на вашых сайтах.

Цікава, што ён добра размаўляў па-беларуску як для анархіста ці нацыянал-анархіста, якім я яго папярэдне лічыў.

– Карацей, аднойчы мяне запрасілі ў дзіўнае месца. Кватэра ў старой камяніцы, акурат на колішнім гарадскім вале – адзін з самых высокіх пунктаў горада. Першы паверх, ведаеш, каваныя парэнчы, шахаўніца з белай і чырвонай пліткі ў пад'ездзе. Кватэра належала нейкай старой, з яе здаваўся толькі адзін пакой, які нагадваў калідор – вельмі выцягнуты. Старую кватэру, мабыць, некалі парэзалі, так і атрыма-

лася гэтая “кішка” ад увахода да акна. Сцены былі застаўленыя кнігамі. Там былі сотні, тысячы кніг. Самаробныя паліцы прагіналіся пад імі, недзе кніжкі стаялі адна на адной, утвараючы вежы да столі. Верхняга святла не ўключалі, гарэла заўжды толькі лямпа на пісьмовым стале пад акном. Стол быў увесь завалены нейкімі паперамі, здымкамі, кавалкамі крэменю ці акамянеласцямі... У гэтай келлі ці бібліятэцы, не ведаю, як назваць, збіраліся 3–4 чалавекі, адзін з якіх і запрасіў мяне.

Галоўная тэма іх размоваў – улада, якая мае прыйсці. Не, там не ішлося пра апазіцыйных палітыкаў, якія ў мяне заўжды выклікалі ўсмешку. Антыпатыі да дзейнага прэзідэнта таксама не выказвалі. Тое, што мелася прыйсці, на іх думку, павінна было змяніць усё жыццё ва Усходняй Еўропе: палітыку, эканоміку, сацыяльную сферу. Новы лад, новы парадак, сацыял-алігархія. Гэта, дарэчы, іх тэрмін, нідзе больш не сустракаў.

Мадэратарам размоваў быў чалавек без узросту, ну, можа, гадоў сарака. Чорны такі, смуглявы, нос кірпаты. У яго была праблема з нагамі – цяжка хадзіў ці то кульгаў, можа, таму сядзеў заўжды ў цемры, пад кніжнымі вежамі, а новазапрошаны госць – каля лямпы, за сталом. Гэты чалавек, Несцер, так яго называлі, быў такім сабе гуру. Ён ведаў усё, верыш? Каралеўскія дынастыі, даты ўсіх перамогаў Фрыдрыха Прускага, падвіды бунчукоў ды барабанаў у турэцкім войску, гэта ўражвала...

Размова ішла зусім не паводле плану, таму патрэбная была нейкая мадэрацыя з майго боку.

– Дык а што такое сацыял-алігархія?

– А, ну так. Гэта лад, згодна з якім большасць нашых суграмадзянаў мае быць знішчана, ператвора-

на ў рабоў ці памочнікаў у гета. Улада належыць невялікай колькасці ідэйных моцных і салідарных індывідаў – алігархаў. Яны кіруюць супольнасцю, знаходзяцца на вяршыні піраміды. Гэта мудрыя аскеты ў чорных фрэнчах, якім нічога не трэба ад жыцця, акрамя ўлады, падтрымкі і распаўсюду сваёй сістэмы. Іх свет – сістэма, уся рэшта – антысістэма, якая мае быць вынішчана і перароблена на іншы лад.

– Ну, і што тут арыгінальнага? Таталітарная мадэль на манер Оруэла, – я крыху расслабіўся і нават глытнуў астылай кавы.

– Не зусім. Гэта квінтэсэнцыя, стрыжань. Тое, што ёсць супольнага ў камунізме з нацызмам, у антыўтопіях XX стагоддзя. Дарэчы, пра Оруэла. Ён быў часткай "Вялікая Трыяды"...

– Чаго?

– "Вялікая Трыяда" – гэта Оруэл, Замяцін і Хакслі, аўтары, якія стварылі найцікавейшыя антыўтопіі ў мастацкай форме. Калі дадаць Стругацкіх і Лондана, "Жалезная пята", атрымаецца "Пяцікніжжа" – пяць кніг, якія чытаў кожны ўдзельнік гэтых... дыскусіяў. Хоць ніякай дыскусіі там не было. Было толькі меркаванне гэтага Несцера.

– Угу, – я паглядзеў у акно, за якім прайшоў нехта ў "бундэсе" ды амерыканскіх берцах, хіба атошнік.

Узгадка пісьменнікаў-фантастаў мяне троху "дабіла".

– ...Ты не ўяўляеш, наколькі ў гэтай канцэпцыі ўсё было распрацавана. Людзі падзяляюцца на некалькі катэгорыяў. Вышэйшыя, сярэднія і зброд. Зброд мае шмат падтыпаў, напрыклад, "прадажнікі": кар'ерысты, айцішнікі, паспяховыя людзі, пазбаўленыя ідэі. Ёсць "атавісты" – людзі з традыцыйнай свядомасцю, сям'я – дом – машына, атавізмы мінулага.

Вышэйшыя – інтэлектуалы, вышэйшыя-ідэйныя – інтэлектуалы, якія трымаюцца канцэпцыі сацыял-алігархіі...

– Гэта была нейкая секта?

– Ды не, яны ж не пакланяліся нікому. Хутчэй, нейкі гурток або таварыства. Але са сваёй вычварнай ідэалогіяй. Разумееш, згодна з ёй, – Багдан паказаў шыхт белых зубоў, – людзі без ідэі нічога не вартыя, іх трэба саджаць у гета. Дарэчы, гета – зручна ствараць у мікрараёнах: у шматпавярховіках...

– ...І доўга ты туды хадзіў?

– Я ... далажыў пра ўсё. Мне падзякавалі, але праз два тыдні параілі больш туды не лезці, а займацца ўладальнікамі значыкаў "За НякляеVа!" ды зборшчыкамі подпісаў...

– І ты не хадзіў больш?

– Схадзіў. Яшчэ раз, – Багданаў твар пасур'ёзнеў, – там ужо не было нікога. Дзверы кватэры адчыніла старая. Сказала, што пакой зноў здаецца. Прапаноўвала ўзяць па добрай цане, пакуль аб'ява не трапіла ў газеты... Мой знаёмы па гістфаку, які мяне туды запрасіў упершыню, таксама знік. На факультэце я яго больш не бачыў.

– Ну, цікава. І ўсё? – я ўжо быў гатовы прасіць у чарнявай афіцыянткі рахунак.

– Амаль. Паўгода таму на СТВ я выпадкова ўбачыў сюжэт, дзе малады хлопец у пінжаку з зачосам набок даваў інтэрв'ю з нагоды выбараў у Польшчы, распавядаў пра групоўкі і палітычныя колы там – праеўрапейскія і праамерыканскія. Пра небяспеку рэваншу польскіх правых, пасоўвання мяжы на стан 1939 года... У такім духу. Падпісаны быў як "политолог, центр "Гиперборея". Гэта быў ён.

– Несцер гэты?..

– Не-е, той, з гістфака. Гурэвіч прозвішча. Я пагугліў крыху, аказалася, ён ужо паспеў скончыць Акадэмію кіравання пры прэзідэнце, удзельнік еўразійскіх форумаў, аналітык, стваральнік цэнтра "Гіпербарэя".

– О, цікава! – я ўсміхнуўся, але Багдан заставаўся сур'ёзным.

– Тады я канчаткова прыняў рашэнне з'ехаць.

– А... чаму?

– Што "чаму"? Значыць, усе пра ўсё ведалі. Усе гэтыя дзівакі, "гарадскія сумашэдшыя", якія абчыталіся навуковай фантастыкі, Троцкага ды Шпенглера, яны былі пад кантролем. І іх пачалі дrepresentaваць з далёкай шуфляды, дзе яны чакалі свайго часу. Так, я нагугліў яшчэ аднаго, чыё прозвішча было мне вядома. Ёсць інтэрв'ю ў інтэрнэце, ён семінарыст і арганізатар праваслаўных спартовых клубаў для моладзі на Берасцейшчыне.

– А Несцера нагугліў?

– Не. Я не ведаю нават прозвішча.

– То бок Вы... ты баішся вяртацца ў Беларусь?

– Давай не будзем пра страх, – Бодзя дастаў яшчэ цыгарэту. – Зразумей. Як гісторык табе скажу. Перад кожным пераломам і паўстаннем новага таталітарнага рэжыму недзе ў падваротнях ды закутках бібліятэк корпаюцца такія дзівацкія кампаніі. І калі іх нешта ці нехта кліча – яны выпаўзаюць з кніжных пячораў, каб расказаць усяму свету, хто вінаваты і як жыць. Як у фантаста Лаўкрафта. "Кліч Ктулху", чытаў? Тысячагоддзямі пад вадой жыла пачвара, якая праз сны заклікала розных людзей да практыкі свайго культу. І гэтым дзівакам "сніцца" ў іх кніжных мроях панаванне над думкай, аўтарытэт, новы свет з сабой на чале.

Я ўдумліва пахітаў галавой па нормах журналісцкай этыкі.

***

З Багданам я сустракаўся яшчэ разы два. Нічога прынцыпова новага ён не сказаў. Пагутарылі, пазгадвалі Менск, Горадню... У Львове я пачаў бываць рэгулярна. А пасля Багдан знік. Нібы расшчапіўся на малекулы. Ягоныя ўкраінскія кенты толькі разводзілі рукамі.

З часу нашай першай сустрэчы мінуў год. Цэнтр “Гіпербарэя” стаў мільгаць па ТВ ледзьве не кожныя выхадныя. Пра казацкі летнікі ды “сетку сепаратыстаў”, якая нібы выбудоўваецца вакол прыходаў праваслаўнай царквы, не пісаў толькі лянівы. Я шмат разоў згадваў Багдана і яго вусцішныя аповеды: пра гета ў шматпавярховіках ды алігархаў у чорных фрэнчах...

Праглядаючы навіны, я мімаволі шукаю “Несцера”. Такім, якім мне яго апісаў Багдан. Кірпаты, смуглявы, кульгавы... Калі ў “Контурах” або “Панараме” з’явіцца гэты эксперт? Калі яго выкарыстаюць? Або наадварот, гэта ён – выкарыстоўвае?..

Я гляджу ў акно, на заснежаны дзіцячы садок з анямелымі арэлямі, чорнымі венікамі кустоўя, крытымі шыферам пляцоўкамі з сілікатнай цэглы з наіўнымі кветкамі на сценах... Праз гадзіну зусім сцямнее і па-над усім гэтым, нібы змрочнае сонца, узыдзе Вялікі Воз або Вялікая Мядзведзіца, Гіпербарэя, як яе называлі грэкі.

Трэба брацца за працу, каб зноў не класціся а трэцяй ночы... Дакумент на працоўным стале адчынены яшчэ з абеду, але я не ведаю, як яго скончыць.

УКГБ РБ
по г.Гродно
и Гродненской области

Докладная записка

О мерах по поиску агента “Зодиак”

В ходе служебной командировки в г. Львов, Украина, мною были предприняты следующие действия для обнаружения агента “Зодиак”, который перестал выходить на связь:

1. Поиск через средства мобильной связи
2. Поиск по временному месту жительства
3. Опрос знакомых агента “Зодиак” из числа неформальных группировок молодежи

В результате поисков...

*Снежань 2015 – студзень 2016*
*“Наша Ніва”*

## Застацца

Ну што, ухабл...ў? – рэзанулі ў паветры Алегавы словы. Я, мабыць, пачырванеў.

Алег пасміхнуўся. Высокі лысаваты тып сядзеў насупраць за сталом. У офісе, фактычна на паддашшы, яшчэ не паспеў разысціся кумар пасля ўчорашняй п’янкі. Па кутах ляжалі стосы нераспаўсюджанай агіткі, заламінаваныя партрэты кандыдатаў на мясцовыя выбары (Алега ў тым ліку) для зборшчыкаў подпісаў, каб не засалілі тлустымі пальцамі жыхары шматпавярховікаў спальных раёнаў, нейкія бюлетэні... На століку побач з дзвярыма красавала некалькі кубкаў з высахлымі пакецікамі гарбаты ды ніфелямі пасля кавы. Тут усё было пад рукой – офіс партыі займаў некалькі квадратных метраў. Пры кожным пераездзе, раз на 3-4 гады, гэтыя метры губляліся. Наступны офіс будзе, мабыць, больш падобны да шафы-камандор альбо вялікага сямейнага халадзільніка.

Тым не менш я ўсё ўспрыняў усур’ёз. Ухабл...ў... Пачуць такое ад Алега – як па твары атрымаць. Які б ні

быў, а ўсё ж такі дзядзька аўтарытэтны, з салідным досведам і бэкграўндам, які, як кажуць, не прап'еш...

– А х...ле яны са сваім Бандэрам... Палессе наша, ажно па Сарны! – адазваўся Збышак, які сядзеў тут жа за камп'ютарам. –Прыходзь у аўторак, будзе прэзентацыя кніжкі ўспамінаў Ф... Мне спадабалася, як чытаў. Ці ты ўжо паедзеш?

– Мабыць, яшчэ буду... Добра, я пабег.

– Трымайся, – моцна пацiснуў руку Алег, як быццам нічога і не сталася.

– Чэсць, – развітаўся Збышак, не адрываючыся ад манітора.

Калі выйшаў, то сярод прапушчаных званкоў знайшоў нумар Славы ды, націснуўшы "выклік", пачаў спускацца нядаўна вымытымі прыступкамі. Будынак разам з усімі офісамі, дарэчы, належаў Раману Васілевічу – буржую, які ў свой час пры пасярэдніцтве Алегавай партыі зваліў за мяжу. Але дабро, вядома, забываецца хутка. Разам з плошчай офіса менелі і шанцы партыі дагрукацца да каменных сэрцаў беларусаў, а шанцы Рамана Васілевіча – вярнуцца на Радзіму.

– Здарова, ты быў званіў.

– Ага, я са шпіталя выходжу на Дзяржынскага, давай каля помніка Міцкевічу праз 10 хвілін.

– Згода.

Беларусы ўсё ж такі кніжная нацыя. Чарговыя мемуары... Нарадзіліся, вучыліся, пісалі, сядзелі, працавалі школьнымі інспектарамі, а калі прыйшлі саветы – з'ехалі за мяжу. Схема-клішэ, якая з'явілася якіх 70 гадоў таму. Кніжная нацыя паэтаў і пісьменнікаў узбагачае суседнія народы. Узбагачае вуглякопамі, будаўнікамі, працоўнымі рыбзаводаў... Пасля фізічнай працы, вядома, і вершы лепш пішуцца.

– Здарова! – паціскаю руку ды прыабдымаю Славу.

– Вітаю, пасядзім дзе? Маю з гадзіну, пасля да зубнога.

Слава “ўя...ў” значна раней. Будоўлі Літвы, Польшчы, Швецыі, Злучаных Штатаў... Вынік: валіза ўспамінаў, шмат фота, некалькі тату ды патрушчаныя зубы з-за дрэннай вады, здаецца, яшчэ ў Літве. Цяпер у рэдакцыі свабоднага радыё, якое працуе для несвабоднай Беларусі. Свабодны Слава.

– Ведаеш, я да медсястры, рудой такой, “лісічкі”, па-беларуску, а яна...

– ...а яна: “бэнээфавец”?

– Не-е, пакаленне змянілася, аздараўляецца нацыя.

– Дзякуй Алегу!

– Ага.

Мы ішлі паўз парк, мінаючы Вечны агонь, Швейцарскую даліну, гарбаты мост з замочкамі маладажонаў, праходзячы пад яшчэ адным – старым мостам, дзе на ізаляцыі, якая шматкамі намагалася сагрэць трубы, пушчаныя верхам, было напісана ўсё пра ўсіх: “Карына – шлёндра”, “Адэльск – сіла! Вася, Рома, Пеця”, “Менты са...” і г. д.

– А я люблю прыязджаць у Горадню інкогніта. Ідзеш па пустой вуліцы, валіць дождж альбо снег... Сябры? А што ім званіць? Я мінулае і сам магу ўзгадаць. Так расчароўваешся толькі. Дык кажаш, Алег сказаў, што ты ўя...ў? Ды не пераймайся. Яны хутчэй уя...лі: хто ў алкаголь, хто ў сям’ю. А ты яшчэ можаш вярнуцца. Інкогніта.

Унізе вада палакала пясок ды дробныя каменьчыкі, выцягвала на ўсю даўжыню водарасці. Качкі час-почас занурвалі галовы, старанна шукаючы свой інтарэс, які цяжка было разгледзець згары. Вада не

была аж занадта чыстай, хоць Гараднічанка сама па сабе неглыбокая.

Мы скіраваліся ў бок піўнухі ля вакзала. Піўнуха была легендарнай, бо назва яе рыфмавалася з прозвішчам кандыдата ў прэзідэнты ад апазіцыі на пазамінулых выбарах. Гэта была яе адзіная, хай і немалаважная, адметнасць. Так, ну і яшчэ яна знаходзілася непадалёк ад будынка Рамана Васілевіча, які апошнім часам побач з турфірмамі ды курсамі нямецкай мовы сабраў офісы бадай усіх апазіцыйных арганізацый горада ў адно ўтульнае гета альбо інтэрнат калідорнага тыпу з прыбіральняй у канцы гэтага калідора.

“Недавно гостила в чудесной стране, там плещутся рифы в янтарной волне...” – у піўнусе чуўся надрыўны голас Агузаравай альбо Алегравай, вечна іх блытаю. Некалькі сталоў былі накрытыя абрусамі з жалезнымі пенальчыкамі для сурвэтак на кожным, сцены былі аббітыя вагонкай, падлога выкладзеная пліткай невыразнага колеру. Прыбіральня адсутнічала, але гэты недахоп кампенсаваўся пышным кустоўем каля выхада ды застарэлай будпляцоўкай – таксама зусім побач. Нарэшце чарга дайшла да нас.

– Класная ў вас тут музыка, – жыццярадасна падміргнуў Слава бялявай афіцыянтцы, якая, імаверна, шмат паспела ўбачыць за час працы тут.

– Ага, ах...енная! Радыё! – адрэзала фарбаваная бландзінка з маленькімі карымі вочкамі ды пайшла грэць нашыя чабурэкі.

– І сэрвіс таксама класны... – праз смех дадаў Слава ўжо значна цішэй.

За суседнім столікам сядзелі двое пралетарыяў: адзін у спартовым касцюме, другі ў польскіх джынсах з процьмай маланак ды замочкаў, абодва з бар-

сеткамі. Акурат насупраць сядзеў лысы, з прыплюснутым носам, які перыядычна зыркаў у бок нашага століка ды круціў у руцэ пусты стапарык. Далонь была надзьмутая парафінам, ад чаго нагадвала баксёрскую пальчатку без пальцаў. Яго сусед, які сядзеў да нас спінай, быў, мабыць, не дужа гаваркі. Пацаны сумавалі.

– Ну што, за твой новы этап! – падняў Слава бутэлечку “Жыгулёўскага”.

– Смяешся, хопіць ужо тых этапаў...

– Ну, ты ж мяне зразумеў. Калі едзеш?

– У сераду, можа, паглядзім.

– Чаго так сумна?

– Не хачу ехаць.

Слава перакуліў бутэльку і паставіў на стол каля букеціка штучных кветак.

– Не перайма́йся. Там таксама можна нешта рабіць. Па архівах капацца, на радыё запісваць казкі па-беларуску для дзетак. Ну а сем’і і двухмоўныя бываюць, чо? І дзеці нармальна вучацца, узбагачаюцца.

– Я чужы там, ты не разумееш...

– Я не разумею? Смешны, – у Славы змяніўся настрой. – Я ведаю, што такое хадзіць з закрытым ротам, бо ты ў той краіне нікога не ведаеш, табе няма з кім паразмаўляць. Таму ты маўчыш. Цэлымі днямі маўчыш. Ведаю, калі ў варшаўскай электрычцы нейкі кончаны кібіц лезе табе ў морду, бо ты размаўляеш з акцэнтам і не кібіцуеш за “Легію”... Ты ў гэтым свеце не патрэбны нікому, час ужо ўсвядоміць, дарослы.

Звычайная рэч: твой горад, вуліца, дом набываюць чароўныя рысы толькі тады, калі бачыш іх у сярэднім пяць дзён у месяц, прыязджаючы з валізай да маці, якая паспела прыгатаваць курыцу з бульбай,

ды адразу абвяшчаеш ёй дату адʼезду. Тады нават твой некалі абрыдлы пакой, дзе бел-чырвона-белы сцяг ты даўно зняў са сцяны, можа падацца чароўнай казкай. Мяккае святло настольнай лампы, фіранкі, якія маці выпрала ды павесіла нанова, шэрагі непрачытаных кніжак, па карэньчыках якіх хочацца правесці рукой, а такую-сякую зняць з паліцы ды пагартаць. Пакуль ты разумееш, што ўсё гэта – на пару дзён, нават на месяц, але наперадзе – немінучы адʼезд, ты верыш у казку. Шчымлівую і ад таго яшчэ больш чароўную.

– Не ведаю, што табе параіць. А яна сюды?.. Зразумела. Што табе тут – сесці хіба, вопыт ёсць. Ведаеш што, – вочы Славы загарэліся зялёнымі агеньчыкамі, – ты падыдзі да гэтых двух, во там, дзе лысы зыркае на нас, і скажы: “Рабятэ, піць гарэлку – поўная х...ня, інтэлігентныя людзі пʼюць піва!”

Слава загагатаў і адкінуўся на жалезную спінку крэсла. Даўно я не ўжываў алкаголь, нават піва, хмель мне такі ўдарыў у галаву, а агульны стан выматаных праз унутраны канфлікт нерваў, толькі спрыяў сітуацыі. Я адсунуў пустую бутэльку “Жыгулёўскага” разам з пластыкавай белай талерачкай з халодным недаедзеным чабурэкам са слядамі кетчупу, высунуў крэсла і нетаропкай хадой, за якую мяне дражнілі яшчэ ў школе, зрабіў некалькі крокаў у бок суседняга століка.

– Пацаны, піць гарэлку – х...ёва, – і пасля паўзы дадаў: – А расейская мова – для пі...саў...

Апошнім, што я паспеў пачуць з радыёкалонак, быў радок Агузаравай, а можа Алегравай, вечна іх блытаю: “Меня ты поймёшь, лучшей страны не найдёшь!”

*Травень-чэрвень 2014, “Наша Ніва”*

# Марта

## Прыквэл да апавядання “Зацкаваны воўк”

*Вільня, канец траўня 1924 года. Два месяцы таму з Менску сюды прыехаў Міхаіл Гурын. Ягоная мэта: арганізацыя паўстання ў Заходняй Беларусі.*

Таварыш Кожухаў, здавалася, піў больш за ўсіх. Можа так толькі здавалася, бо разліваў заўжды ён. Піў больш, а размаўляў – менш. Ды як размаўляў? Жарты ўсялякія, байкі пра жыдоў, цырульнікаў, лістаношаў, анекдоты розныя – усё гэта сыпалася з яго як бульба з парванага меха. А вось пра палітыку, польскія ўлады ці, крый Божа, беларускія справы – не, ніколі.

Ён задаваў адно пытанні. Пытанні, на якія адказвалі іншыя. Або кідаў правакацыйныя сцверджанні, якія былі насамрэч пытаннямі, кшталту: *“Палякі самі сваё войска развальваюць...”* або *“Уся Вільня за Пілсудскага!”* А там ужо з-за стала шквал пратэсту падымаўся. Слухаў, ківаў галавой. Праца такая. Вывучка. А можа наўпрост прафесійная дэфармацыя.

А мне гэта ўсё навошта было? Тая самая кватэра, той самы стары каштан ва ўнутраным дворыку, тыя самыя пустыя дзверы на балконную галерэю, куды ўжо ніхто ніколі не войдзе, натʼ калі я буду спаць тут сам. Як тады, тыдні з два таму...

Марта ды ўсё, што з ёй звязана патанула недзе, згасла. У рэальнасці, але не ў памяці. Калі ты ляжыш уначы, праз сон чуючы, як адбіваюць званы святога Казіміра, а пасля страпянешся ўвесь, так сабе знянацку, прымроіўшы перад сабой белую панну – чарнавалосую дзяўчыну ў начнушцы, якая нарэшце прыйшла, як усе пайшлі спаць. Да цябе. Адмыслова. Не, не, такога больш не будзе. І не варта было. Хаця...

– Што ты робіш?

– Пішу.

– Но-о-о... Курва маць. Ты на пару дзён хоця ж не можаш ад гэтага адарвацца?

– Не.

– А што пішаш?

– Апавяданне.

– Пепшыш... Не веру.

– ...

– А куды пасля збіраешся?

– У горад.

– Не-е-е. Зараз прыйдзе Сэргіюш, пойдзем разам.

– Ведаю, што прыйдзе. Але я сам пайду.

Чарнявая дзяўчына з блытанай польска-беларускай гаворкай звешвалася праз парэнчы, пускаючы струменьчыкі дыму ў сусвет, які пакоіўся на веццы таго самага велічнага каштану. Сусвет, дзе было ўсё. Нябёсы з праведнікамі, святымі пакутнікамі ды пакаяўшыміся грэшнікамі месціліся недзе вышэй, па-над страхой з бляхі ды чырвонай дахоўкі. Ніжэй былі напаўвысахлае вецце з завялым лісцем – для людзей

гэтага свету, з іх парокамі і дабротамі. Бліжэй карэння, якое пяшчотна аплятала падмуркі барочнай камяніцы, пакоіліся душы зацятых грэшнікаў, бязбожнікаў ды заходнебеларускіх камуністаў. Недзе там, пад пліткамі з пазнакай віленскага магістрата, некалі спачну і я.

Так, я хацеў бы па смерці вярнуцца ў гэты дворык. Паслухаць, як увосені шапаціць прырэчаная на смерць лістота, адчуць вясёлы тупат жыдоўскіх дзяцей, што жывуць на першым паверсе, усмактаць кроплі дажджавой вільгаці з адарванай сцёкавай трубы... Я ведаю, што заўжды буду вяртацца менавіта сюды. Тут будзе маё асабістае пекла і мой вырай, не прызначаны Камінтэрнам або Разведупрам, не прырэчаны польскім судом, не прымроены паплечнікамі-ідэалістамі. Мой асабісты выбар. Я так хачу. Шукайце мяне тут, калі знойдзеце.

***

Спусціўшыся па пакручастай лесвіцы камяніцы, дзе мы спыніліся, мінуўшы залізаны мяккімі промнямі адыходзячага да сну сонца галоўны калідор з мазаічнай падлогай, я выйшаў на Дамініканскую. Кватэра была неймаверна зручная, адсюль паўсюдна блізка, куды б не йшоў – хоць да ратушы, хоць да Зялёнага мосту, хоць да руінаў замку. Сярод летніх столікаў адной з кавярняў на Замкавай мяне ўжо чакаў чалавек сярэдняга росту, з сівой барадой ды ў круглых амерыканскіх акулярах.

Ягоны столік знаходзіўся троху воддаль ад іншых, а твар толькі мільгаў з-за газетных разваротаў, якія той час-почас нервова перакідваў. На стале – кава ды нязменная шклянка вады. Побач з крэслам – такі ж нязменны чорны кій.

– Вітаю!

– Чэсць, стары! Хадзем усярэдзіну, няма чаго тут свяціцца... – барадаты акуратна склаў газету ды прысунуў да стала гнутае драўлянае крэсла.

Нягледзячы на немалады ўзрост, а было яму хіба пад палціннік, мянушку "Стары" мой знаёмы атрымаў зусім не з-за веку, але праз звычку называць "старымі" усіх сваіх калегаў. Такі зварот, зрэшты, тут распаўсюджаны, таму і пытанняў ні ў кога не выклікаў. "Стары" быў народжаны палякам, але доўга жыў у Расеі, дзе і адседзеў некалі месяцаў з дзевяць, а мо і год. З таго часу, кажуць, ён і не трапляўся ніколі, жывучы пад фальшывымі прозвішчамі, практыкуючы невядомыя прафесіі, начуючы на неіснуючых адрэсах... Паўжыцця на нелегальным становішчы. Жывая легенда, карацей.

Яшчэ раней я заўважыў, што ў кожнага са старых падпольшчыкаў быў свой фетыш. Нехта лічыў, што галоўнае – гэта збіранне ды назапашванне зброі, хай нават яна і не будзе ніколі выкарыстаная. Нехта быў апантаны вывешваннем чырвоных сцягоў, якія, нібы іконы, меліся разганяць чорныя сілы капіталістычнай рэакцыі ды набліжаць святло з усходу. Профілем "Старога" быў друк ва ўсіх ягоных формах.

Не маючы дакладнай палітычнай лініі, акрамя крытыкі маладзейшых камуністаў, якіх інакш як "смаркачамі" ён не называў, барадаты быў фанатычным тэхнікам, якога вабіў сам працэс. Часам я ўяўляў, як "Стары" сядзіць у сваім склепе, адчуваючы, што ніводная душа ў свеце не ведае зараз яго дакладнага месцазнаходжання. Побач з ім – табліцы са шрыфтамі, стосы ўлётак, газетаў, адозваў, колькасць якіх ён можа вызначаць на вока, падсунуўшы пачак да пачака і параўнаўшы.

Усё гэта, шрыфты, наклады газет, тысячы тыражаваных улётак заварожваюць яго, надаюць сілы. У такія моманты, упэўнены, ён шчаслівы і можна знаходзіцца ў сваёй таемнай друкарні бясконца доўга, нават без дай прычыны. Бо адозвы, якія маюць з'явіцца ўначы на бетонных гарадскіх тумбах для афішаў – яго сцягі, улётачкі памерам з далонь з заклікам байкоту дзяржаўных тавараў – яго набоі, а ўсё разам – гэта ягоны бог, без якога сусвет ды ўсё ў ім не мае сэнсу.

Прабраўшыся ўсярэдзіну кавярні, "Стары" як заўжды сеў у самым куце, каб бачыць уваход, знаходзячыся ў прыцемку. Нібы дэман, збянтэжаны святлом сонца, якое ніяк не схаваецца за даляглядам. Скрозь круглыя акуляры на мяне глядзелі яго ўчэпістыя шэрыя вочы, а скупыя на словы вусны хавала знакамітая барада, што стала падставай для другой партыйнай мянушкі – "Барада". Я паклаў на стол "апавяданне", якое дапісваў у апошні момант пры Марце.

– Тут інфармацыя, якую ты прасіў, ды грошы...

– Цішэй, Міша, – стары па-змоўніцку пасунуўся бліжэйда мяне, – не забывайся, дзе ты зараз ёсць. Калі цябе не слухае паляк, гэта не значыць, што побач няма немца або літвіна. Гэта Вільня, скрыжаванне шляхоў ды інтарэсаў.

"Стары" акуратна загарнуў мае паперы ў газету, якую чытаў некалькі хвілін таму, ды адклаў на край стала. Пасля палез у кішэнь пінжака ды працягнуў па ліпкай стальніцы да мяне кулак.

– Бяры.

– Што гэта?

– Гэта табе. З мінулай сумы. Тваёй жа сумы.

– Я маю на што жыць.

– Бяры.

Я ўзяў некалькі скамечаных банкнотаў ды пастараўся незаўважна схаваць у кішэнь нагавіцаў. “Стары” выдыхнуў, нібы развітаўшыся з ношай, якая яго мучыла нейкі час.

– Ну што там, дагэтуль жывяце кагалам на той кватэры?

– Так.

– Даеце... Няўжо нельга было па розных раскідаць?

– Слухай, там купа народу заўжды. Нехта сыходзіць, нехта прыходзіць, а нас трое ўсяго. Там нават лягчэй згубіцца. Уладальнік – паляк, стары сацыяліст...

– Яшчэ лепш.

– ...Ты ж сам паляк, здаецца.

– Так. Таму і палякаў ведаю. І польскую кампартыю, ад якой тут больш шкоды, чым карысці. І з маршалкам з 1905 года знаёмы, калі ён, кур-рдэ, як твой уласнік кватэры, лічыў сябе сацыялістам...

– Маршалка Пілсудскага?

– Ціш-ш-шэй, Міша!

– Выбач.

– Не кажы “выбач”, наўпрост не рабі так болей.

Калега заварушыўся ў крэсле, мабыць, адчуўшы сябе таксама ніякавата, як і на пачатку сустрэчы, седзячы звонку з газетай.

– Любіце вы крычаць, натоўпамі хадзіць, добра хоць не з бантамі чырвонымі на грудзях. Я і смаркачам гэтым кажу: *“Я супраць адчыненых дзвярэй у арганізацыі”*. Балбатуны гэтыя хай цягаюцца на мітынгі, а каб справу рабіць – шмат народу не трэба. Я табе ўжо казаў, ячэйка – гэта тры чалавекі. Не пяць, не дзесяць, не трыццаць. Бо як не будзе канспірацыі – нічога не будзе.

– Я разумею...

“Стары” яшчэ раз паглядзеў на мяне, прымружыўшы левае вока, нібы спраўджаючы, ці сапраўды я “разумею”, ці наўпрост стаміўся слухаць ягоныя мантры і абыякава пагаджаюся.

– Колькі тут будзеш яшчэ?

– Не ведаю. Пару тыдняў дакладна буду...

– Ну і файна. Давай у нядзелю ў “Белым Штралі”. Гэта блізка, праз пару дамоў. У адным месцы не трэ’ заседжвацца.

– Добра.

Дэман падпольнага руху ўстаў моўчкі, хітнуў галавой у мой бок, ды скіраваўся на вуліцу, каб знікнуць за дрэнна вымытым вітрынным шклом у набрыдлых сонечных промнях. Я выцягнуў з кішэні пачак падораных таварышам Кожухавым папіросаў “Cow-Boy”, запаліў ды ўзяўся пералічваць пад сталом атрыманыя банкноты.

***

Наш караван цягнуўся па цьмянай ды мокрай пасля дажджу Вільні, нібы нейкі начны дазор або працэсія памерлых са старых сярэднявечных гравюраў, прысвечаных апанаваным пошасцю гарадам. Наперадзе, найбольш цвярозыя, у бок кватэры ішлі прафесар Вальдэк з Верай, ціха пра нешта шапталіся. Імаверна, ён распавядаў ёй пра горад. Наш сябар Вальдэк, дарэчы, і быў гаспадаром тых апартаментаў з шырока адчыненымі дзвярыма. Далей ішлі мы з таварышам Кожухавым, добра выпіўшыя лікёру ды гарэлкі недзе на рагу Міцкевіча і Арсенальнай. Апошнімі цягнуліся Марта з нейкім польскім афіцэрам, вечаровым знаёмцам. Яна ўжо не мела сілы ісці, шмат смяялася, нешта крычала рэдкім мінакам,

трымаючы свайго збянтэжанага і шчаслівага адначасна знаёмца пад руку.

Вера, невысокае дзяўчо з каштанавымі валасамі па плечы, часамі азіралася, ветліва робячы выгляд, што ўважліва слухае вальдэкавы гавэнды пра Гедыміна, жалезнага воўка ды іншыя гістарычныя байкі. Я апускаў вочы, калі яе пранізлівы і крыху жаласлівы погляд сутыкаўся з маім, бо ўсё разумеў. Гэты погляд я ведаю з Менску, дзе ў казармах на Нямецкай вуліцы нас усіх рыхтавалі да камандзіроўкі, з якой, Бог ведае, ці каму давядзецца вярнуцца. Мы ехалі па Беларусь, а рыхтавалі нас развальваць Польшчу... Тэрор, дыверсіі, выведка – карацей, прасоўванне ідэі сусветнай рэвалюцыі.

Час-почас я таксама абарочваўся назад, назіраючы як Марта нешта даводзіць паляку, то павышаючы на яго голас, то падаючы ў абдымкі. У гэтым была ўся сутнасць гэтай чарнявай бестыі, якая рэдка каго пакідала абыякавым. Яна была абсалютна выпадковым спадарожнікам нашай групы, у адрозненне ад прафесара Вальдэка не сімпатызавала ані камуністам, ані польскім урадоўцам, якіх, зрэшты, называла "скарумпаванымі свіннямі". Яе наўпрост цікавіла жыццё ва ўсіх яго праявах. Мужчынам, як не дзіўна, гэтай цікавасці перападала значна больш...

Таварыш Кожухаў, наш інструктар, хутка зарыентаваўся ў сітуацыі, таму не перашкаджаў ані папойкам у Вальдэка, ані тлумам народу, якія штодня праходзяць праз кватэру з адчыненымі дзвярыма, ані выхадкам Марты, знаёмай прафесара, якая прыклеілася да нас пару тыдняў таму. Лепш так, чым соўгацца па гатэлях ці кватэрах "надзейных таварышаў". Хочаш схаваць нешта – пакладзі на самае віднае месца. Хочаш абдурыць паліцыю – пій з намеснікамі на-

чальнікаў камэндаў, з якімі нават знаёміцца не трэба – самі за Мартай прыйдуць. У адрозненне ад нас ягоная камандзіроўка мела тактычныя задачы, доўга затрымлівацца ў Вільні ён не планаваў.

Прозвішча, вядома, было несапраўдным. Кожухаў наогул быў літоўцам, хоць камуністаў-латышоў я сустракаў набагата часцей, але не меў для сваіх землякоў аніякага сантыменту. Чыя Вільня? Савецкая, адказаў бы паголены пад ноль афіцэр, якога я ані разу, нават у Менску, не бачыў апранутым па форме. Чалавек з амаль празрыстай да ружовага скурай, белымі вейкамі ды халоднымі блакітнымі вачыма. Не ведаю, ці быў ён фанатыкам ідэяў Камінтэрну, хутчэй фанатыкам сваёй працы ды Разведупра, які яго сюды скіраваў. Сёння Вільня, заўтра, магчыма, Рыга, Львоў ці Данцыг...

– Не оборачівайся, – з усмешкай, зацягваючыся папіросай, кінуў Кожухаў.

– Я не абарочваюся.

– Я віжу. Страх і жалосць, Гурін, твоі врагі. А есчо соплі і раманціка, – літовец падміргнуў ды зноў лёгка пасміхнуўся.

Я прамаўчаў, хоць быў, здаецца, больш выпіўшым за калегу. Мы ж не ў БССР, квіток наш з Верай быў толькі ў адзін канец, таму, падавалася, акурат зараз я і мог сказаць яму ўсё, што думаю. І пра “беларускі дом” на ўсходзе – “чысты і светлы” – дзе кіруюць усе, апроч беларусаў. І пра Разведупр, які толькі прыкрываўся ідэямі сусветнай рэвалюцыі, але прасоўваў палітыку Чырвонай Расеі. І пра Марту... Але я стрымліваўся.

– Вам бы кніжкі пісаць, сціхі, п’есы, – працягваў паголены, цвярозы, як шкельца, – А тут революцыю делать нужно. Дадут денег на агітацыю – вы букварі

децям напечатаеце. Дадут на оружіе – цеатральный кружок откроеце. Самі как дзеці...

– Не ўсе ж такія.

– Фсе, фсе. І ваш Ігнатовскій, который цебя праважал в Мінске. І твой здешній знакомец в круглых амеріканскіх ачках – ні рыба ні мяса...

Мая далонь была пацягнулася ў кішэнь па ўлюбёны вальтар на шэсць набояў. Абхапіўшы маленькую ручку з рэльефнымі шчочкамі па баках, я адчуў, як пальцы імгненна зрабіліся вільготнымі. Указальны лёг на халодны гачок. Хопіць, хай усё ідзе да чорта. У Менску ўжо наслухаўся гэтага ...

Раптоўна з-заду пачуўся жаночы войк. Я азірнуўся. Марта, здаецца, паслізнулася ды ўпала. Паляк з усмешкай узяўся яе падымаць, махаючы нам рукой, маўляў, усё пад кантролем.

– Пошлі, пошлі, – Кожухаў прыабняў мяне за плячо, – без цебя справяцца.

Я выцягнуў успацелую руку з кішэні ды палез за цыгарэтай.

***

Калі я прачнуўся, там, на галерэі пад каштанам, ужо пачынала світаць. У пары метрах ад мяне на плеценым крэсле сядзела Марта з нязменнай папіросай, захутаная ў польскі вайсковы шынэль. Абярнуўшыся ў мой бок яна пасміхнулася.

– Хэй!

– ...Дабранак.

Я прысеў, машынальна абмацаў рукой шыю і патыліцу, нібы правяраючы, ці ўсё на месцы. Скінуў на бок плахту, якой прыкрываўся, калі спаў на двары (Кожухаў, прыкладам, заўжды спаў у пакоі, бо *“паходных умоваў яму па жыцці і так хапала”*). На-

мацаўшы пачак папіросаў, я выцягнуў адну ды падышоў да дзяўчыны.

– Як пачуваешся?

Яна не адказала нічога, толькі задуменна пахітала галавой з боку ў бок ды зноў расплылася ва ўсмешцы.

– Ранак, а ты не спіш.

Марта паціснула плячыма, выпусціла струмень дыму ды яшчэ больш захуталася ў шынэль.

– Слухай... У мяне пытанне. Толькі адно.

Яна зацікаўлена паглядзела на мяне, нахіліўшы галаву ў бок ды апусціўшы папіросу.

– Тады, два тыдні таму... Навошта?

– Мне было цікава.

Не зводзячы з мяне вачэй яна зноў паднесла папіросу да вуснаў. Бачна было, што грудзі, ледзве прыкрытыя чужым форменным строем, выдыхнулі, каб зноў набраць дыму. Мабыць, яна чакала больш складанага пытання.

– Але... На якісь час зостанеш в моей глове. Буду паментаць.

З гэтымі словамі яна паднесла далонь і лёгка дакранулася пустой часткай папіросы, якая толькі што выплыла з яе рота, да маёй скроні.

– Але мы можам... Так сабе гутарыць. Гэта ж файна, не?

– Ну так.

– Зрэшты, Міхал... Вера толькі на цябе і глядзіць. Таму, лічы, маеш пэвен аўторытэт ў паненак.

Я крыва ўсміхнуўся і паглядзеў убок. Гэтым часам яна жбурнула недапалак у калодзеж двара. Зьнічка даляцела да падножжа каштану ды разбілася на некалькі палаючых аскепкаў, каб у момант згаснуць. Праходзячы поруч, Марта правяла рукой па маім

плячы ды, не абарочваючыся, знікла ў дзвярах кватэры. Недзе высока над кронай волата было чутно гром, над якім старое дрэва не мела аніякай улады.

***

Гэтым жа ранкам я прачнуўся яшчэ раз, увесь мокры. Было ўжо даволі светла, хоць неба і зацягнула шэрымі хмарамі. Дождж пайшоў раптоўна ды адразу сцяной, як гэта бывае ўвесну. Стары каштан быў не пры справах, яго лістота шапацела пад ударамі кропляў, нібы прабачаючыся перада мной за тое, што не папярэдзіла ўчасна. Я адкінуў мокрую шмату ды асцярожна, каб не вылецець у калодзеж за недапалкам Марты, пасунуўся па слізкай плітцы ў кватэру, трымаючыся за хісткія поручні.

Усярэдзіне было ціха. На стале на кухні ўзвышаліся некалькі парожніх бутэлек ад гарэлкі ды недапітая шкляніца з нейкай мутнай наліўкай – помнікі ўчорашняму вечару. На пасрэбранай тацы з карункавымі мадэрнымі ўзорамі стаяла некалькі кілішкаў. Са спінкі крэсла звісала нядбайна кінутая афіцэрская партупея. З пакояў было чутно, як нехта пахрапвае. Мабыць, той жвавы паляк, а можа і халасцяк-Вальдэк, які, здаецца, не замарочваецца такімі дробязямі.

Трэба было недзе прылегчы, каб схапіць яшчэ гадзінку сну. У першы пакой... Не, не зараз. Да Кожухава таксама не пройдзеш, бо каморка, дзе ён начуе, у самым канцы. Усё адно ісці праз паляка і... Дарэчы, ёсць яшчэ калідор, можна тудой.

Паміж дзвярыма, за якімі ўжо пачыналася лесвіца да параднага, і карычневай кафлянай печчу, стаяў маленькі ложак. Пад копіяй “Рацлавіцкай бітвы”

Матэйкі ў залачонай гіпсавай раме, тварам да сцяны скруціўшыся слімаком спала дзяўчо з каштанавымі валасамі. Калі я прыпадняў коўдру ды лёг побач, ахінуўшы цёплае трапяткое цела сваім, яна не сказала ані слова, адно моцна, як магла, сціснуўшы маю далонь.

Насупраць нас, нібы прыхадзень у сваёй хаце, на лаве храпеў прафесар Вальдэк. За вакном шапацеў каштан, граючыся кроплямі веснавога дажджу.

***

*Міхаіл Гурын-Маразоўскі, звінавачаны ў здрадзе, загіне падчас другога замаху на сябе ў Вільні ў 1928 годзе, страляць будзе яго былы падначалены баевік КПЗБ Кліцэвіч. Вера народзіць сына, падчас вайны прыме актыўны ўдзел у дзейнасці савецкага падполля ды будзе закатаваная немцамі, пра яе будуць пісаць кнігі, яе імем назавуць дзесяткі вуліцаў. Марта стане выпадковай ахвярай цягам аблавы на вуліцах Гродна вясной 1944-га. Таварыш Кожухаў, ён жа "Бес", стане легендарным савецкім дыверсантам, пераежыве ўсе чысткі, даслужыцца да высокіх чыноў у МДБ і ціха памрэ ад інфаркту на дачы пад Масквой ў 1970-х. Лёс "Старога" застанецца для ўсіх таямніцай, розныя беларускія дзеячы будуць яшчэ доўга лічыць яго агентам дэфензівы або ІІ Аддзела польскай выведкі.*

*Чэрвень-ліпень 2016, "Наша Ніва"*

## Зацкаваны воўк

*У аснову апавядання пакладзеныя рэальныя падзеі, што мелі месца ў Горадні ўлетку 1926 года.*

Цяжкія дзверы адчыніліся, у памяшканне, дзе па лавах сядзела некалькі хлопцаў, вусаты мужчына ў карычневым паліто ды бабуля з кошыкам, закрытым хусткай, зайшоў мажны чалавек у чорнай форме з кукардай-арлом на круглай фуражцы.

– Кто ту ест Клінцэвіч?

– Я естэм.

– Ходзь зэ мноў.

За абшытымі бляхай дзвярыма даўжэзнай кішкой – калідор з бетоннай выцертай падлогай ды цьмянымі лямпамі пад столлю праз кожныя пяць-сем метраў.

– Гадаш дзесенць хвіль і спердаляш. Розумеш?

– Так.

Яны спыніліся перад наступнымі дзвярыма, таксама абшытымі бляхай, толькі з вочкам на ўзроўні галавы. Зграбнымі рухамі “чорны чалавек” адамкнуў іх і запусціў худога, як аплатка, наведніка ў пакой. За спінай бразнуў метал. Дзверы зачыненыя.

Шэры пакой. Невялічкае закратаванае акенца пад столлю. За сталом – такі самы “хлопец-аплатка”, толькі, мабыць, яшчэ худзейшы, з рукамі за спінай.

– Вітаю, браце!

– Вітаю, – млява адказаў скаваны, а пасля паўзы дадаў ужо больш рашуча: – Я забіў яго.

***

– Нешта ты зашмат паліш, Міша, – прамовіў паголены пад нуль чалавек, гуляючыся з попельніцай. – Зрэшты, не дзіўна... Не дзіўна для таго, чый партрэт надрукаваў “Чырвоны сцяг”.

Твар лысага чалавека, які сядзеў за сталом у пакойчыку гатэля, нагадваў маску з вузкімі шчылінкамі вачніц. Праз іх пазіралі цёмныя вочы, колер якіх і ўдзень цяжка было вызначыць, а тут яшчэ і святло бляклае. Ён вытрымаў паўзу, перакруціўшы некалькі разоў алюмініевую попельніцу ў форме галавы Касцюшкі. Як яе ні паварочвай – з’яўляецца твар правадыра паўстання, партрэт-пярэкрут. Лысага чалавека звалі Васіль Рагуля.

– Нават на паліграфію не пашкадавалі, – манатонна працягнуў “маска”. – Ты ж ведаеш, што гэта значыць?

– Здагадваюся, – коратка кінуў суразмоўца, вусаты хударлявы мужчына гадоў трыццаці пяці.

– Ну вось... А чаго ты хацеў, Міша? На сустрэчы ты прыходзіш з дзіўнымі людзьмі, якія гавораць па-расейску, але з выразным польскім акцэнтам. Ты сам разумееш, што гэта значыць... У дадатак да ўсяго цябе раптоўна выпусцілі... Выпусцілі чалавека, які рыхтаваў паўстанне ў Заходняй Беларусі, – “маска” іранічна пасміхнуўся, не пазіраючы суразмоўцу ў вочы.

Зацягнуўшыся папіросай-пустыхай, якія спраўна штодня рабіліся на гарадзенскай табачнай фабрыцы Шарашэўскіх, ён перавёў позірк у акно, за якім цыбаў дождж. Святло электрычных ліхтароў адбівалася на бляшаным падваконні ды шахаўніцы новапакладзенага бруку Дамініканскай вуліцы.

Фота ў "Чырвоным сцягу", дзе зрэдку друкаваліся нават партрэты правадыроў і паслоў сойму, магло азначаць толькі адно – справы ў героя неважнецкія. Рэдакцыя зрабіла пад фота кароткі подпіс: *"Міхаіл Гурын, правакатар паліцыі"*. Гэта быў своеасаблівы "гончы ліст", чалавек ставаў па-за законам, забіць яго – справа гонару для кожнага камуніста і беларуса.

Праз сто гадоў бляклае фота на жоўтай газетнай паперы застанецца адзінай зачэпкай для гісторыкаў, каб уявіць твар рэвалюцыянера, палітвязня ды архітэктара "сецэсіі" або расколу ў КПЗБ Міхаіла Гурына-Муразоўскага, вядомага пад нізкай падпольных псеўда – Стах, Ян, Легенда, – а ў сапраўднасці ўраджэнца наднёманскіх Ярэмічаў Міхала Ханевіча.

***

– Нешта, Сямёне, паліць мне цяжка стала, ведаеш? – робячы паўзу па кожным слове, цадзіў бялявы хлопец, ператвараючы "л" ва "ў" на польскі манер. – Матка кажа, што модліцца за мяне нехта, каб кінуў дурное. Яна сама хіба і модліцца на ружанцы, бо так казала. За ўсю сям'ю нашую модліцца штодня: і за Касю, і за Лешэка, ну і за мяне, каб за навуку ўзяўся ды махорку кінуў. Я гэта адразу зразумеў. А вось швагро мой, Сенька, паліць – і нічога яму не робіцца. Ці тое грудзі моцныя, ці тое... няма каму мадліцца за яго. Ты як лічыш, Сямёне?

У адказ Сямён пусціў струменьчык дыму на суразмоўцу ды паглядзеў убок.

– Ты хоць памятаеш, навошта ты тут?

– Я... ясна, што памятаю.

– Што ты памятаеш?

– ...гніль вычышчаць, як таварыш Бес сказаў.

– Цішш... – шыкнуў на суразмоўцу Сямён, зняў клетчатую кепку ды правёў далонню па лбе.

Хлопцы туліліся ў цёмнай браме, з якой было відаць кавалак Дамініканскай ды акрайчык гатэля "Гандлёвы". Лета пераваліла за палову, набліжаўся праваслаўны Ілля. Ночы, асабліва пад ранак, станавіліся халаднейшымі, таму суразмоўцы, каб не задубець, паўзверх кашуль нацягнулі пінжакі ды паліто. Хто ведае, колькі чакаць прыйдзецца, каб "гніль вычысціць".

– Слухай сюды, малы, – не выпускаючы самакрутку з зубоў, засяроджана пачаў Сямён. – Слухай ды запамінай. Госць наш, як выйдзе з гатэля, імаверна, пасунецца па Напалеонаўскай. Можа звярнуць на Басняцкую, але найхутчэй... Слухаеш?!

– Та-так.

– Найхутчэй, ён пойдзе ажно да Пілсудскага і толькі там ля дома доктара, з вежай каторы, зверне налева. Там у яго справа ёсць.

– Якая справа?

– Шлёндра там яго жыве.

– А скуль ведаеш?

– Таварыш Зямляк казаў. А так, наогул, то ты маеш ведаць тое, што табе трэба – і годзе.

– Але ж ты...

Побач зарыпелі дзверы, і на брук лёг прастакутнік святла з вітальні. Сямён урос у цагляны мур, хуткім рухам схаваўшы цыгарку за спінай. Стары з

дзвюма торбамі ды кіем прычыніў дзверы ды пасунуўся кудысьці ў бок Юрыздыкі. Сямён, для якога гэта імгненне расцягнулася на гадзіну, выдыхнуў ды толькі зараз заўважыў нічым не збянтэжаны твар Гжэська.

– Сямё-оне, дружа, маеш яшчэ махорку на самакрутачку, га?

***

– Заб'юць цябе, Міша, – "маска" строс попел на алюмініевага Касцюшку, а другой рукой нахіліў бутэльку "Выборовай", разліваючы белую вадкасць па кілішках, – або дэфензіва, а спіхнуць на камуністаў, або камуністы, а скажуць, што дэфензіва. Ты – зацкаваны воўк.

Стах пасміхнуўся, падцягнуў кілішак бліжэй да сябе ды кульнуў. Тое самае, але крыху запаволенымі рухамі ды не заплюшчваючы вачэй, зрабіў "маска". Сцягнуўшы са стала лусту сала з паўкругам шэрага хлеба, праз імгненне Гурын зноў запаліў.

– Ведаеш што... мы цябе пашлём у Нямеччыну ад Пасольскага клуба, – выціраючы белай сурвэткай вусны, зноў азваўся да госця "маска". – Будзеш там нашым прадстаўніком. Перасядзіш, пачакаеш, заадно і пазнаёмішся з людзьмі, карыснымі для беларускай справы...

– Не хачу, дзядзько, – прамовіў Гурын, нібы вярнуўшыся ў гатэль са схаванага свету сваіх думак і планаў. – Не для таго я сюды прыехаў тры гады таму.

– А для чаго ты прыехаў з сяброўкай сваёй? Для чаго цябе сюды разведупр закінуў?.. Падняў ты паўстанне? Ці не? А мо гэта тыя ж хлопцы, з якімі

ты хацеў урадавыя будынкі займаць ды пастарункі паліць, тваю ж рэдакцыю “Бальшавіка” спалілі? А цяпер яшчэ і партрэт гэты...

– Не тыя ж. Ёсць правадыры, а ёсць хлопцы, якія не цямяць, што робіцца...

– А ты хто ў гэтай сітуацыі? Калі табе Троцкі зброю і грошы даваў – ты цяміў, што робіцца? Ці ён табе даваў, каб ты на вуглях старой Польшчы “беларускі дом” збудаваў, чысты ды светлы?..

– Пайду я, дзядзько.

Гурын адсунуў пусты кілішак ды ўстаў з-за стала. Прускі насценны гадзіннік з маленькім якарам на цыферблаце паказваў палову на першую. Дождж на двары сціх. Недзе побач, нібы адразу за акном, залівался салавейка.

– Чакай, Міша.

Стах, які ўжо паспеў накінуць чорнае паліто ды ўзяць капялюш у руку, моўчкі развярнуўся.

– Як там Марта?

– Не ведаю.

– Чуў, што пайшла ад цябе.

– ...

– Куды зараз?

– ...да яе.

– На Пілсудскага, значыць... Ну, бывай здаровы.

– Бывайце, дзядзько.

– Будзеш калі раптам у Ярэмічах, матцы ды дзядзьку вітанні перадавай.

– Пастараюся.

***

На завулку каля Дамініканскай было ціха. За апошнюю гадзіну міма прабег толькі чорны сабака. Падышоў, панюхаў хлопцаў ды зноў схаваўся ў цемры.

Сямёну падавалася, што “госць” ужо не выйдзе і заначуе ў нумары. Сядзець у браме да раніцы не хацелася, тым больш што поруч мог прайсці нехта страшнейшы за чорнага сабаку ды спытаць легітымацыю. А там і кішэні спраўдзіць...

Тады браўнінг трэба было б выкарыстаць не паводле прамога прызначэння. А пасля бегчы на Завяршчызну, перакрочыць Юрыздыку ды Літоўскі ручай, прайсці вузкімі сцежкамі, мінаючы рэдкія калонкі, не абарочваючыся на брэх сабак, каб нарэшце дабрацца да Пышак, дзе можна перабыць да ранку, а там ужо праз Мелавыя горы падацца да Грандзічаў.

Сямён ведаў таксама, што Гжэсік, ягоны калега, зусім не пераймаецца такімі пытаннямі, а думае, найхутчэй, пра мамку, калдуны з мясам, свайго белага сабаку ці нейкія іншыя дзіцячыя бздуры, пра якія ён, адказны за акцыю, ужо паспеў наслухацца за вечар.

Хлопец прысеў на кукішкі, грэючы спінаю цагляны мур, ды ўтаропіўся ў брукоўку. ...Перад яго вачыма, як гэта часта здаралася апошнімі днямі, пачалі зноў, як некалі, праплываць нёманскія хвалі, зашумела хвоя. Там, унізе, ля берага, ледзьве чутна біліся бартамі чаўны, а на другім, больш пакатым, спуску да вады былі раскіданыя бярвёны, парэшткі разбітага плыта.

Яны з хлопцамі, весела перагаворваючыся, цягнуліся на ўзгорак, дзе ўжо стаяла некалькі дзядзькоў. Для канспірацыі неслі з сабой у кошыках гарэлку ды паесці тое-сёе. Пузатыя бутэлькі з мутнай вадкасцю, выдзьмутыя зусім поруч, у Бярозаўцы, біліся сценкамі не горш за чаўны. Так навучыў таварыш Бес, які ішоў наперадзе, спрактыкаваны падпольшчык і “дзяржаўны злачынца”.

Пасярэдзіне невялікай паляны быў бугарок, прыкрыты свежым ядлоўцам, відаць, магіла. Па коле грубка была абкладзеная камянямі. Сямён тады задумаўся: няўжо іх прыцягнулі ад самага Нёмана? Нехта тут сем патоў праліў, дакладна!

Зверху курган быў прыкрыты двума адрэзамі тканіны: рэвалюцыйным чырвоным і таямнічым бел-чырвона-белым...

– Лядзі-лядзі! – нервовы шэпт “малога” перарваў кароткую медытацыю, Сямён вярнуўся ў рэчаіснасць.

Насупраць, метраў за трыццаць ад хлопцаў, адчыніліся дзверы, нібы на суцэльна чорнай шахматнай дошцы з’явілася самотная белая клетка з цёмнай фігурай на ёй. На парозе стаяў чалавек, захутаны ў паліто, ды запальваў цыгарэту.

***

Дымок з коміна павольна распушчаўся ў зорным жнівеньскім небе. Самотны струменьчык ледзьве падымаўся над крытай гонтамі страхой ды поўз далей у бок Нёмана. На Рыбацкай у гэтую ноч тапілася толькі адна хата. Дымам з яе сыходзілі два кепі ў клетку ды пара брызентавых плашчоў.

У куце пакоя перад пацямнелым ад часу картонным абразом Маці Божай Чанстахоўскай укленчыў Гжэсік, ці тое нашэптваючы бабуліну малітву, ці тое плачучы. Невядома, ці Багародзіца чула, але ўшанараваны твар з абраза глядзеў сувора й дапытліва.

На кухні гарэла святло, гаспадыня сярэдніх гадоў вышывала, здзяйсняючы штодзённы рытуал, а магчыма – супакойваючы нервы. Пальцы не слухаліся, таму крыжык не выходзіў, сіне-зялёна-чырвоная ваза з кветкамі, што мела паўстаць на белай тканіне,

не давалася жанчыне, нібыта намякаючы на банальнасць сюжэта ў такі неспакойны час.

Сямён з аголеным торсам, у карычневых бруках з плотнай тканіны, замацаваных трочкамі на дужых плячах, паліў, раскінуўшы рукі па металічных кратках рыпучага ложка. Толькі што ён у чарговы раз перамяшаў ды дакінуў у “галандскую” міжпакаёвую печку, выкладзеную белай кафляй станіслававоўскіх майстэрняў, новыя шматы, нарэзаныя з сённешніх “рабочых строяў”.

Агонь за чугуннымі дзверцамі гуляўся кавалкамі тканіны, перакручваючы іх і ператвараючы ў смярдзючы дым ды незвычайны “слаісты” попел, які варта было разбіваць ды перамешваць зноў і зноў. Гульня агню займала ўвагу Сямёнавых шэрых вачэй, але думкі былі далёка адсюль, ссунутыя ўверх па цячэнні Кронана-Нёмана, ракі часу...

Зноў і зноў у сполахах праплывалі твары людзей, якія згуртаваліся каля невялічкага кургана, прыкрытага пасмамі сцягоў. Зухаваты таварыш Бес са схаванай у плечы галавой злева, таварыш Шэлест у акулярах з вечна засмучаным тварам пасярэдзіне ды... таварыш Стах, з выразнымі чорнымі вачыма ды сухарлявым выцягнутым тварам, справа.

Вочы таварыша Стаха былі запаленыя, вусны прамаўлялі радкі камсамольскай прысягі, якія ўжо хорам, паклаўшы кулак на сэрца, паўтаралі хлопцы, з Сямёнам уключна, час-почас кідаючы адзін на аднаго касыя позіркі, маўляў, ці ўсё правільна кажацца.

Гэтыя запаленыя вочы Сямён сёння ўбачыў другі раз у жыцці, поўныя адчаю і здзіўлення, якія пасля замяніла іронія і... лёгкасць. Так, ён лёгка сустракаў кулю, нібы чакаў яе ўжо не першы дзень, нібы ад-

мыслова шукаў з ёй сустрэчу на паўцёмных гарадзенскіх ды віленскіх завулках, нібы ад гэтага рандэву залежала нашмат больш, чым ад спаткання з Мартай. Але куля падманула абодвух.

Пасля першага, няўдалага, стрэла, Сямёнаў браўнінг выпусціў яшчэ сем набояў, але ў "госця" спрацаваў інстынкт – ён пачаў пятляць між дрэваў, пасля кінуўся на сярэдзіну пустой вуліцы Пілсудскага, а пазней спрабаваў нырнуць у завулак, пакуль не ўпаў як падкошаны, метраў за сотню ад дома "сваёй шлёндры".

Седзячы каля печы, Сямён не ведаў, што таварыш Стах яшчэ падымецца ды здолее вярнуцца ў гатэль, у якім спыніўся Рагуля, і пагрукае ў дзверы з кароткай просьбай: "Адчыні". Так паранены звер хаваў след, адводзячы драпежніка ад логава, дзе жыла ягоная жанчына... Гурын не ведаў, што чалавек, які страляў у яго восем разоў, як пасля напіша польская прэса, будзе страляць яшчэ раз – ужо ў Вільні, на Антокалі, больш трапна і рашуча.

...Марта ў гэты вечар не чакала нікога, меланхалічна гартаючы лісты з ажурнымі літарамі і шматлікімі клічнікамі, напісаныя па-польску. Часамі яна ўсміхалася, неахайна страсаючы попел з файкі на шчарбатую талерку з выцертай манаграмай. Калі на вуліцы прагучалі першыя стрэлы, яна зачыніла акно ды згасіла лямпу.

*Травень 2016, "Наша Ніва"*

## Калыска рэвалюцыі

– Так, так, во тут стань, за ронда, я патэлю.
– Што?
– Ну, за ронда... Гэта кальцо, па-польску.
– Ааа.
– Во, будзеш у Польшчы, спытаешся дарогу, табе скажуць: “За ронда”. А ты ўжо будзеш ведаць, бо табе Чэсік сказаў!

Наш белы “Пежо” мінае кальцо з палісаднікам пасярэдзіне. З палісадніка расце бетонны колас на тле шасцяронкі з надпісам “Свіслач”. Уся кампазіцыя пафарбаваная ў розныя колеры: жоўты –“залаты” – колас, чырвоная шасцярня і блакітны надпіс.

– Во тут спыні, я на камурку набяру яму, – нервова махае далонню Чэсь, ужо трымаючы ў зубах цыгарэту, – ну і надвор’е... я пер-рдолю.

На дварэ ліе як з вядра. Людзей няма. Пара аўто прыпаркавана каля ходніка далей за нас. Па іншы бок дарогі – касцёл з чырвонай цэглы. На гэтым мес-

цы некалі стаяў драўляны, старажытны, куды хадзіў маліцца ці проста за кампанію з сябрамі-гімназістамі малады Каліноўскі.

– Чэсь, с цебя няўстойка, многа цем не запілім такой пагодай, – падміргвае рускамоўны кіроўца і фатограф Валодзік.

– Ага, я ўжо бачу... – паспявае кінуць Чэсік, выходзячы папаліць у капюшоне ды з тэлефонам у руцэ.

Свіслач – "калыска рэвалюцыі". Штогод тут праходзіць ушанаванне памяці братоў Каліноўскіх – людзі збіраюцца, кладуць кветкі, кажуць сумныя прамовы. Аўтобус з Горадні, аўтобус з Менска, пара легкавушак. Знічкі ў лампадках, песні пад гітару на ўскрайку пушчы, ціхары з камерамі "Sony"... Штогод тое самае.

Паўстанцкі фэст традыцыйна ладзіцца на пачатку лістапада, таму "лісты шчасця" з запрашэннямі ў суд прыходзяць актывістам праз пару тыдняў – у сярэдзіне ці бліжэй да канца месяца. Часам, праўда, судовае рашэнне з сумай штрафу прыйдзе задняй датай – на каталіцкае Раство ці Новы год. Штогод – тое самае.

Сёлета першым у суд запрасілі мясцовага актывіста Мішу Палуйчыка. Да яго мы і прыехалі ў Свіслач. Мы – журналісты.

– Ні фіга не паработаем, – нарэшце выдае Валодзік, узіраючыся кудысьці ў перспектыву вуліцы.

– Мда, – я зноў гляджу ў бакавое акно.

Кроплі малююць кругі на лужынах. Нас абмінае чырвоны "Фальксваген Пасат", на якіх раней было модна вазіць саляру ў Польшчу. Зяляніны ўжо няма, на ўзбочыне адно размоклая, растаптаная ботамі зямля. Недзе жоўтая, глiністая, а месцамі сапраўдны чарназём...

– Працуем, – залятае ў салон Чэсь, ад якога тхне тытунем, – ён у сябе ў краме. Вуліца Камсамольская... Карацей, едзь проста пакуль. Толькі голас нейкі стомлены...

Мястэчка выглядае як мёртвае. Жыццё затаілася ў драўляных старасвецкіх хатах, двухпавярховых стандартных дамках з сілікатнай цэглы, тлее ў сталоўцы, дзе праходзяць усе мясцовыя вяселлі і памінкі, падазрона глядзіць праз наноў пастаўленыя сёлета шклопакеты ў лякарні.

– Стой, стой, во, бачыш, аптэка справа, – з задняй сядушкі зноў падае голас Чэсь, – ставай ту!

Польска-беларуская Чэсікава гаворка цалкам арганічная. Хлопец з каталіцкай сям'і прайшоў свайго часу ўсе "колы пекла": прафсаюзны рух, лістоўкі на прахадной, страйк, звальненне, біржа праца і камяні на полі разам з бічамі, Саюз палякаў, рэпрэсіі, журналістыка... "Французскае радыё", – стандартны адказ Чэся на пытанне рэспандэнтаў пра месца работы. – А што? Хай дакажуць, што я там, кур-рдэ, не раблю!" Цяпер Чэсю даўно за саракет, сям'я і дзеці.

Абабіты пластыкавым сайдынгам шапік выглядае самым дагледжаным будынкам вуліцы. Над уваходам рознакаляровая шыльда па-беларуску: "Тысяча дробязяў". Адметна, бо іншыя шыльды на мове ў мястэчку – старыя і пашарпаныя – рэлікт беларусізацыі 1990-х, а тут новая! Значыць, чалавек зрабіў свядома. Свядомы чалавек.

– Чэсць, – акуратна вітаецца журналіст "Французскага радыё".

– Вітаю, – пасля невялікай паўзы працягвае руку мужчына з-за прылаўка пустой крамы.

Мужчына нечым нагадвае шэрыфа з амерыканскіх вестэрнаў. Акуратныя дагледжаныя вусы, сівыя

скроні, сінія джынсы. Здаецца, вось-вось дастане з-пад прылаўка драбавік!

– Як гандаль, Міхал?

– Ідзе паціху, бачыце.

– Стаіць ваша... “калыска рэвалюцыі”?

– Стаіць, ціха.

Азіраюся навокал. Крама адпавядае назве: навакол – тысяча дробязі. Бенгальскія агні, стэплеры, пластыкавыя гадзіннікі, тачылкі для нажоў і нажніц, ліхтары, сшыткі ў клетку ды ў лінейку, абкладанкі на пашпарт... У куце – асобная камера для кветак! Ружы ды лілеі зачыненыя – адмысловы тэмпературны рэжым.

– Мы... не моцна замінаем? – зноў акуратна перапытвае Чэсь.

– Не, – манатонна хітае галавой Міша, запаўняючы нейкую накладную.

Голас Палуйчыка зусім ціхі, амаль нячутны. Пісаць яго на відэа было б суцэльнай катастрофай...

– Ідзеш у суд? – яшчэ больш асцярожна пытае Чэсь.

– Не, – зноў хітае галавой суразмоўца, не адрываючы вачэй ад паперы.

Паўза. Чутно, як на вуліцы ідзе дождж. Я гляджу праз шыбу: у бок аптэкі сунецца жанчынка ў цэлафанавым празрыстым дажджавіку. Па лекі, ціск хіба праз надвор’е...

– Ну а што ісці? – нарэшце падымае галаву гаспадар крамы. – Зноў штраф будзе. Што я там не бачыў?.. Пасля лістом дашлюць.

– Ну так, але ж, кур-рдэ...

– Але, калі вам трэба... – Міша ўстае ды разгублена разводзіць рукамі, – то я магу. Толькі жонка пашпарт хай прывязе.

– Мы, не...

– Драсце, – у краму заходзіць хлопец у скуранцы, з-пад якой тырчыць капюшон, – есть обложкі на паспорт?

– Здароў, так, ёсць, – Міша паплыў у іншы сектар крамы, не выходзячы з-за прылаўка.

– ...Хадзем папалім, – жэстам паказвае на дзверы Чэсь. – Зараз вернемся!

– Валодзя, хадзем...

Добра, што пад казыркам ёсць троху месца. Бо мой левы чобат ужо мокры, а ў Валодзіка хіба абодва. “Купляйце беларускае”, як кажуць.

– Слухай, мы ж яго ў суд пад рукі не павядзём.

– Не, кур-рдэ, не павядзём... Ну і кавал нам Міша зрабіў... Я е...

– Ну, он, па-мойму, сам есчо не решіл, – прыжмурвае адно вока Валодзік.

– Сам-та ён не рашыў...

– Дык якая праблема? Зробім матэрыял пра тое, што ён не пойдзе ў суд.

– Ну так... Грамадскі актывіст лічыць суд несправядлівым і ігнаруе. Можа быць... Але вынік, скуль ты возьмеш? Канечне, можна ў канцы пасяджэння зайсці і спытаць, колькі далі штрафу, назвацца сваяком. Працэс адкрыты...

– Калі не перанясуць з-за яго адсутнасці.

– Кур-рдэ...

***

Быць актывістам у Мінску і ў Свіслачы – дзве розныя рэальнасці. У вёсцы ці ў мястэчку звычайна адзін ці два сябры Фронту. Іх усе ведаюць, яны ўсіх ведаюць. Перад кожным 25 Сакавіка міліцыя іх правярае, цікуе зранку пад хатай на недарагой “ацечаственнай” легкавушцы, зазвычай чамусьці срэбранага ко-

леру, каб толькі дзядзька не паехаў у Мінск ці не выйшаў з якім плакатам на вуліцу.

Калі цябе затрымаюць у Мінску – пра цябе будуць пісаць усе СМІ, праваабаронцы пачнуць абзваньваць РУУСы ды ізалятары, на Акрэсціна на наступны дзень пацягнуцца чуллівыя жанчынкі з пакетам, дзе будзе цёплая вопратка, цыгарэты, мінералка і туалетная папера.

А тут... Каму ты трэба? У цябе можа згарэць машына, табе атруцяць сабаку, абрэжуць дрот, паламаюць паркан. Каму ты што дакажаш? Ты адзін. Так людзі співаюцца (кагосьці спойваюць), паміраюць (кагосьці знаходзяць з праламанай галавой...). Але Міша іншы. Упарты.

Міша Палуйчык не проста "шчыры беларус" (з гатунку "абняць і плакаць"), але круты, па мясцовых маштабах, бізнесовец. Мае дом, аўто, крамку з тысячай дробязі. Штогод ён дапамагае ладзіць Паўстанцкі фэст, на які прыязджаюць мінчукі, каб памахаць сцягам ды выступіць перад журналістамі цягам некалькіх гадзінаў. Штогод адграбае, калі мінчукі звальваюць. Мінулая канфіскацыя з крамы пацягнула на 100 мільёнаў...

Але Міша не адзін. Іх было раней трое, мясцовых фронтаўцаў. Адзін спіўся, другі памёр...

***

Белыя пластыкавыя дзверы адчыніліся, з крамы выйшаў шчаслівы ўладальнік новай вокладкі на пашпарт. Чэсь кінуў бычок, і мы падаліся ўсярэдзіну.

– Слухай, Міша, няма праблемы, як не хочаш ісці, то не ідзі, кур-рдэ, зробім матэрыял, маўляў, ты, грамадскі актывіст...

– Не, хлопцы, я пайду. Я вырашыў.

– Ты падумай, не спяшайся, – Чэсь, здаецца, пачаў разумець, што Міша наўпрост не можа адмовіць гарадскім, якія ДЗЕЛЯ ЯГО прыехалі сюды за сто кіламетраў. – Мы пакуль у сталоўку, пазней сюды пад'едзем... Слухай, во, а маеш тачылку для нажа? Жонка даўно прасіла.

Міша згінаецца і пачынае нешта шукаць пад прылаўкам. Яшчэ раз азіраюся на стракаты асартымент тавару, гляджу на кошты: 7 тыс., 20 тыс... Колькі ўсяго тут трэба канфіскаваць на 100 мільёнаў?! Колькі чалавек тут мае адпрацаваць, каб адбіць такія грошы?..

І гэтыя мільёны яму не вернуць праваабаронцы: гэта ж не камп'ютары з партыйных офісаў, з якімі можна развітвацца з усмешкай, – дабрадзеі кампенсуюць. Тут ніхто нічога не кампенсуе. Бо артыкул стапудова быў "эканамічны". Бо Міша не круты партыйны бос, які можа разагнаць сітуацыю як палітычную і атрымаць грошы. Бо гэта Свіслач.

– Гэтую не бяры, за паўгода сточыцца, – па-гаспадарску, з веданнем справы тлумачыць Палуйчык, які цяпер у сваёй стыхіі, – во гэтая, за 25 тысяч. Беларускамоўным зніжка 20%...

Апошнія словы Міша дадае з добразычлівай усмешкай і глядзіць Чэсю ў вочы. Бо ён здзяйсняе грамадскі ўчынак – робіць зніжку "сваім". Брусок падае Валодзіку ў заплечнік, каб не выпаў з кішэні. Выходзім.

– О-о, вітаю! – нос у нос сутыкаемся з Валерам, рэдакцыя якога... канкуруе з рэдакцыяй "Французскага радыё", а значыць, ён таксама на суд... – А чаго не сказалі, што едзеце?

– Дык мы... не збіраліся, – усміхаецца Чэсь.

– ...Ясна. То ўбачымся, – Валер усміхаецца ў адказ.

– Ага!

Белыя дзверы зачыняюцца за Валеравай спінай.

– Усё, пі...ц, – сплёўвае Чэсь.

– Што?

– Што-што... Калі тут Валера, то ён дакладна Мішу ў суд павалачэ. Ці ён дарма 100 кэмэ пiлiў на сваёй “аўдзі” пад дажджом?

– Думаеш?

– Но яснэ, кур-рдэ!..

***

Будынак суда ў Свіслачы нагадвае фартэцыю. Пастарунак, ІЧУ, дэпартамент аховы, суд – усё ў адной камяніцы з пляцыкам, агароджаным бетонным парканам з маткамі ягазы наверсе. Нібы каланіяльная крэпасць для крэолаў, каб бараніцца ад індзейцаў, якія жывуць навокал. У часы Каліноўскага расейскі гарнізон тут хіба выглядаў падобна, толькі з брамай, пафарбаванай у чорна-белыя палоскі, ды скуластым вусатым казаком на варце.

Унутры на дзіва ўсё аказалася неяк душэўна і нават па-хатняму. Унізе ніхто ні ў кога не спытаў дакументы – цалкам пусты хол. На другім паверсе сумуючы сяржант паздароўкаўся з Мішам, нічога лішняга не пытаючы, ды зноў занурыўся ў “Прессбол”. Усе свае.

Поручні на сходах, мэбля, стэнды, абшыўка – усё з дрэва, пушча ж побач. Дакладны кантраст са сталічнымі судамі, з пліткай ды стэрыльнасцю, якія нечым нагадваюць моргі. Тут усё інакш. Можна прысесці ў старое высокае судзейскае крэсла, якое вынеслі ў калідор, калі спісалі. Або павесіць куртку на вешал-

ку, мабыць, часоў Цанавы, з таўшчэзным тачоным стрыжнем. А вось ужо і час заходзіць у залу...

– Встаць, суд ідзёт!

Падымаемся. Мажны кучаравы суддзя займае сваё месца. Праваруч ад яго – сакратарачка са стрыжкай карэ і празрыстай шарыкавай ручкай з сінім верхам – у мяне ў школе такая ж была.

– Прысажывайцэс...

Што робіць журналіст на судзе? Нешта піша або малюе ў нататніку. Я звычайна малюю “пагонькі” ды “крыжыкі”. Натую прозвішчы, трапныя слоўцы. Вывучаю абрысы Беларусі на гербе, якія чамусьці ў кожнай установе розныя: то Гарадзеншчыны няма, то абрысы краіны набліжаюцца да ідэальнай формы шара (як таго і хацеў Карскі)...

Сведкі, як заўжды, два міліцыянты. Чэмер і Гарбачонак (прынамсі, я так запісаў). Адзін – начальнік РАУСа, другі – начальнік ІЧУ. Парачка-твікс. Абодва ахоўвалі ўрачыстасці па братах Каліноўскіх. “Ахоўвалі”... ад кого?

– ...А што дзелалі дземанстранты?

– Ну, с флагамі стаялі, рэчы талкалі, – водзіць рукой у паветры лысаваты начальнік РАУСа, – как всігда.

– А гражданін Палуйчык был там?

– Был гражданін...

Міша сядзіць спінай да нас на першай лаўцы. Твару і эмоцыяў не бачна, толькі патыліца. Але Міша хвалюецца, вядома. Хоць і трымае сябе ў руках. Ягоны голас падчас дачы паказанняў такі ж ціхі, як у краме, поўны нейкага фаталізму:

– Скажыце, – Міша звяртаецца да міліцыянта, – а бел-чырвона-белы сцяг забаронены ў Беларусі?

– Ну... как вам сказаць, – перамінаецца з нагі на нагу Чэмер, – я такой інфармацыі не імею... У нас

есть наш флаг, вот, – паказвае рукой на дзяржаўны штандарт у куце, – а бело-красный... не знаю.

– Дзякуй.

Гэты “дзякуй” Міша дадае кожны раз, калі гаворыць з суддзёй ці задае пытанне міліцыянтам. Задаючы пытанне, Міша стаіць, трымаючы далоні разам, у замку, як падчас малітвы. “Дзякуй”... За што?

– Втарова наябра я нёс службу вмесце з групай відеафіксацыі сначала на кладбішчэ, патом возле памятнікав, позже – в дзерэвні Якушовка, – адрывіста, як друкавальная машынка, дае паказанні Гарбачонак.

– А гражданіна Палуйчыка відзелі?

– Так точна. На кладбішчэ с флагам. Возле памятнікав – тожэ с флагам. В Якушовке уже без флага – аддал таварышчам.

Гарбачонак зусім іншы за расхлябанага пузатага Чэмера. Акуратны, падцягнуты, выканальны, граматна выказвае думкі. Цікава, чаму яго не паслалі адсюль на павышэнне?

– Скажыце, – зноў устае Міша, – а бел-чырвона-белы сцяг забаронены ў Беларусі?

– Да. Он запрэшчон.

– Дзякуй...

Пасля выступаў міліцыянты просяць суддзю іх адпусціць – праца. Суддзя не супраць. Вырак? Не, яшчэ рана. Засталіся відэаматэрыялы.

– К сажаленію, наш зал не абарудаван для прасмотру відзеа, паэтаму перайдзём в кабінет.

– А можа, не трэба, – акуратна схіляе суддзю скончыць усё хутчэй Міша, – усё ж ясна...

– Пачэму жэ? Всё пасмотрым. Прайдзёмце.

Міша з суддзёй ды сакратаркай ідуць па чырвонай дарожцы з арнаментам па баках нейкім бясконцым

калідорам. Мы сядаем па лавах у “сенцах”. Валодзік адразу лезе ў тэлефон, Чэсь з Валерам, як старыя калегі, закінуўшы нагу за нагу, павольна пра нешта гавораць, часам усміхаюцца.

Я нарэшце пачынаю разумець адну рэч: усё гэтае шоу – для нас, журналістаў. Каб нас не было, Міша наўпрост зайшоў бы да суддзі ў кабінет, павітаўся б ды атрымаў штраф. Хвілін 10 на ўсё пра ўсё – разам з пісаннем заявы на атрыманне копіі пастановы...

Тым часам на пляцоўку перад залам падымаецца яшчэ адзін сяржант, за якім ледзьве валачэ ногі нягалены дзядзька нявызначанага ўзросту ў камуфляжы ды брудных гумовых ботах – сапраўдны індзеец. Сяржант пальцам паказвае на лаву – маўляў, сядай. Той сядае, здзіўлена аглядаючы нашу кампанію, пасля чаго з нямым пытаннем на твары глядзіць на міліцыянта: хто гэта?

Я адкідваю позірк на драўляны штапік на сцяне, заплюшчваю вочы ды спрабую адключыцца. Дзіўныя думкі лезуць у галаву. “Вось міф Цоя заснаваны на тым, што ён загінуў рана. Тое ж з Каліноўскім – рэвалюцыянер-рамантык, такі малады на шыбеніцу... А як бы выглядаў Каліноўскі, скажам, у 50 гадоў, пасля паразы паўстання, каб вярнуўся на Бацькаўшчыну з высылкі?..”

***

– Ідут, пошлі, – Валодзік целяпае за рукаў.

Сумны і стомлены Міша вынырвае па чырвонай дарожцы з калідора. Чэсь, Валер, Валодзік і я падскокваем з лаваў ды ідзём у залу. Суддзі з сакратаркай пакуль няма.

– Фоткай, Валодзік, кур-рдэ, бо зараз прыйдуць!.. – глядзіць то на Мішу, то на дзверы Чэсь.

Валодзік здымае падсуднага на айфон моўчкі, не першы раз. Па-зладзейску азірнуўшыся па баках, Валера дастае свой стары серабрысты фоцік памерам з пачак цыгарэт: ён заўсёды здымае сам, да фатографаў не звяртаецца. Так больш выходзіць за матэрыял. Міша крыху разгублена сядзіць на першай лаўцы, не ведаючы, куды падзець вялікія спрацаваныя рукі.

– Слухай, Міша, а сядзь у клетку! – нечакана падкідвае новую ідэю Чэсь. – Ну сядзь, сядзь. Я так калісьці Пачобута сфоткаў, то пасля здымак доўга па сайтах гуляў – аблічча за кратамі!

Міша кідае "касога" на дзверы і ўжо, здаецца, падымаецца, каб пайсці і сесці ў гэтую праклятую металічную пастку, але...

– Встаць, суд ідзёт... – фактычна на хаду, з парога, абвяшчае сакратарка з шэрай тэчкай, прыціснутай да грудзей.

Вырак прадказальны. Дваццаць пяць базавых, што складае чатыры з паловай мільёны рублёў... У апошнім слове Міша Палуйчык казаў нешта пра сцяг і герояў, якія за яго памерлі. Пра ўшанаванне памяці напярэдадні Дзядоў. Пра ўладу, з якой, мабыць, нешта не так, калі людзей судзяць за ўскладанне кветак. Суддзя слухае апатычна, схаваўшы вочы ў паперы.

Калі ўсё скончылася, аказваецца, што ўсе дзве з паловай гадзіны Міша з суддзёй і сакратаркай глядзелі відэа – без гуку, не прамовіўшы аніводнага слова. Магілы, крыжы, знічкі, людзі са сцягамі. Помнік, некалькі прамоўцаў, зноў кветкі і знічкі. Вёска, самотны крыж сярод поля, пад ім людзі, нехта з актывістаў, праходзячы поруч, глядзіць у камеру, а пасля здымае аператара ў штацкім на тэлефон.

Апошнія хвілін дзесяць відэа – шэрае неба, ралля. Аператар паклаў камеру на дах машыны, мабыць, забыўшыся выключыць, і нейкі час на экране красуе ўзаранае поле. Уяўляеце: ціша ў кабінеце, ціша ў калонках, руху няма ані там, ані тут. Суддзя, сакратарка і Міша Палуйчык глядзяць на экран. А там – чорная ралля і шэрае, як мундзіры паўстанцаў, неба.

***

Пакуль Міша піша заяву на атрыманне копіі пастановы, курым на прыступках. Дождж скончыўся, на дварэ развіднела. Трэба сядаць і ехаць, увечары ў Горадні яшчэ прэзентацыя кнігі аднаго мінскага археолага. Там уся прэс-кампанія ўбачыцца зноў...

– Кур-рдэ, чаму б зранку такому надвор'ю не быць? – сплёўвае Чэсь перад тым, як зачыніць дзверцу машыны. – Яшчэ б апытанку запілілі.

– Міша без настрою зусім? – перапытваю.

– Та-ак, не захацеў фоткацца нават на фоне суда! А што я – прымушу?! Ай...

– Можа, яго падвезці трэ было...

– Не-е, дай спакуй... Ён тут побач жыве. Расстроіўся фацэт...

Нейкі час мы ўсе глядзім услед Мішу, які чэша пустым ходнікам ў расхрыстанай куртцы ў адваротны ад нас бок. На імгненне падаецца, што па вуліцы сунецца састарэлы сівы Канстанцін Каліноўскі.

– Што зробіш, так яно выглядае, Саша...

– Едзем? – пытае Валодзік.

– Та-ак.

***

Зноў дарога. На дзялянцы ля хаты людзі паляць салому, загартаючы недапаленае віламі, глядзяць нам услед. Ад саломы белы дым перацякае праз дарогу ў калгасны сад з выкручанымі яблынькамі. Сонца сядае.

– Чуеш, спыні дзе пры дарозе, маю патэліць, ну, выйсці ў этэр на жыва, з месца падзеі.

– Тут, на павароце, харашо? – як заўжды педантычна перапытвае Валодзік.

– Так, так! Обоентне...

Спыняемся. Валодзік глушыць матор. Цыць, ідзе званок у студыю!.. Чэсік, пракашляўшыся, робіць сур'ёзны выгляд, трымаючы слухаўку ля вуха. Моўчкі гляджу ў акно: узаранае поле, лясок на даляглядзе, хмары ў прамянях сонца недзе далёка-далёка, прыгажосць! Перавернутыя чорныя лусты ўрадлівай "тутэшняй" зямлі, якая нараджала герояў...

– Працягваецца пераслед удзельнікаў акцыі ўшанавання памяці братоў Каліноўскіх у Свіслачы, якія нібыта парушалі грамадскі парадак і выкарыстоўвалі незарэгістраваную сімволіку падчас ушанавання. Сума штрафу, вынесенага актывісту суддзёй Аляксеем Мазалёвым, складае 25 базавых велічыняў, або 4 500 000 рублёў. Актывіст, аднак, не збіраецца адракацца сваёй грамадзянскай пазіцыі, а рашэнне суддзі будзе аспрэчваць у абласным судзе...

*Лістапад 2015, "Наша Ніва"*

## Самурай

– Харакіры, у іх гэта называецца...

– Ніколі не кажыце харакіры – гэта зняважліва. Кажыце, сэппуку, – Міраслаў паправіў акуляры, – Дaслоўна, гэта “успорванне жывату”. Высакародны ўчынак. Так самурай дэманструе знявагу да болю і смерці перад абліччам лёсу.

Міраслаў, колішні данецкі “майданавец” кілаграм на 130, зацягнуўся “Кентам”. Лысаваты Міша ў саколцы “Карпати Львів” у адказ толькі пахітаў галавой ды паднёс шампур з каўбасой бліжэй да агню. Наша вогнішча было зробленае на хуткую руку: складзена са спарахнелых калдобінаў, папярэдне пасечаных бразільскім мачэтэ. Цемра апускалася на Левандоўку, раён на ўскрайку Львова, хаваючы прыватныя дамкі з зацішнымі садкамі, іншамаркі на польскіх нумарах ды піўныя кіёскі з апушчанымі белымі ралетамі.

Тут мы гасцілі ў Самурая, ветэрана Майдана і Вайны на ўсходзе (не кажыце АТО у яго прысутнасці –

гэта зняважліва, амаль як “харакіры”). На заднім двары пад яблыняй лунала вогнішча, ля якога мітусіліся цені.

– Ну дзе ён там?

– Хто?

– Самурай.

– У хаце... схадзі, глянь.

Ад першабытнага святла я пайшоў да святла электрычнага, якое гарэла над уваходам. Камяніца была падзеленая на дзве часткі. Тая лепшая, са шклопакетамі ды польскай паштовай скрыняй пры ўваходзе, належала іншым людзям. Уваход да Самурая быў заблытаны, нібы лабірынт Мінатаўра, з вуліцы трэ’ было прайсці спачатку проста, да фурткі, а далей ужо прадзірацца скрозь сад з бур’яном у чалавечы рост, з-за сцяны якога месцамі выглядалі грушкі ды яблынькі.

Я зайшоў у вітальню з батарэямі цёмнашкляных бутэлек ад піва ды аплаўленым выключацелем. Далей трэба было ісці калідорам, заваленым кніжкамі, вопраткай ды пустымі картоннымі скрынямі. Напрамак вызначаў шум тэлевізара недзе наперадзе. Вось яна – самураева берлога. На экране плазмы агеньчыкамі, нібы ў печцы, гралі нейкія сюжэты, патрэскваючы рэплікамі. Тут жа наіўныя карціны ды фотаздымкі па сценах, біты посуд з японскімі іерогліфамі на падлозе ды... п’яны гаспадар на канапе без ножак.

– Заходзь.

***

Самураева доля не з простых. Ва ўяўным біяграфічным артыкуле пра яго занадта часта фігуравала б слова “былы”. Былы гаспадар мадэльнага агенцтва,

былы начальнік аховы банку ў Беларусі, былы целаахоўнік, былы сем’янін...

Ад пачатку 1990-х Андрэй (так звалі Самурая) займаўся ўсходнімі адзінаборствамі, але найперш – фехтаваннем на японскіх катанах. Сэнсэй, які паспеў стаць для хлопца бацькам (той вырас у прытулку), упадабаў дзяўчыну вучня, яна была не супраць... За збройны напад на сэнсэя Андрэй атрымаў тады пару год турмы, але выйшаў раней.

Раны загойваюцца, жыццё – працягваецца. Наступная жанчына, прыгажуня Алена, наўпрост знікла ад Андрэя адным цудоўным ранкам. Забрала сына – і знікла. Ён шукаў іх, аплакваў, пасля – вывесіў яе фота на бачным месцы ў пакоі, дадаўшы да свайго пантэона.

Пасля быў памаранчовы майдан 2004-га, Рэвалюцыя духу, Вайна на Данбасе. Андрэй адпусціў казачы чуб, паліў белагліняную файку часоў Хмяльніцкага, не развітваўся з вынашаным брытанскім камуфляжам. Выліты казак Мамай, постар з якім вісеў тут жа, побач з партрэтам Алены. Калі Самурай закладаў пасівелы чуб за вуха, у вочы кідалася знявечаная далонь, дзе ад паловы пальцаў засталіся толькі закругленыя абрубкі. Гэтак адазвалася граната “Беркута” у лютым 2014-га.

...Услед за мной у пакой увайшла Агнешка. Зграбнае дзяўчо ў кароткай спадніцы і чорнай, пад колер валасоў, штучнай скуранцы, мела ўсмешку анёла, які зведаў усе таямніцы жыцця і за гэтае веданне быў адпраўлены ў зацяжную камандзіроўку на зямлю.

Агнешка, полька за пашпартам, пазнаёмілася з Самураем падчас мінулага падарожжа па Украіне. У яе скралі нумары з аўто, пакінуўшы тэлефон ды суму выкупу на кавалачку паперы. Тады Самурай, знаё-

мы ёйных знаёмых, прыйшоў па форме ў аддзяленне паліцыі, каб тэрарызаваць службоўцаў, пакуль тыя не знойдуць прапажу.

Намеснік начальніка крымінальнага вышуку быў вымушаны падключыць да пошука усе рэсурсы – вось-вось махляроў меліся накрыць. Гэтым часам нехта з агнешчыных сяброў паклаў патрэбныя 500 грывень на рахунак крадунам ды знайшоў нумары ў адным з двароў побач. Даведаўшыся пра гэта, Самурай "лінчаваў" сябра дзяўчыны: даў ў галаву некалькі разоў. Нічога дзіўнага, бо ўсё дон-кіхоцтва з паходам у паліцыю пайшло сабаку пад хвост. Мент з крымінальнага вышуку таксама вкурвіўся: ягоны аўтарытэт *"быў парушаны"*.

Незадаволенай аказалася і Агнешка: назваўшы Самурая "хамскай мордай", дзяўчына сышла ды не адказвала больш на званкі, а праз пару дзён з'ехала ў Польшчу. Самурай быў няўцешны. Шмат піў, біўся з рэальнымі і выдуманымі нягоднікамі у розных частках Львова (апошні раз яго бачылі каля помніка Шаўчэнку – дабіваў нагамі нейкага няшчаснага, які *"скраў у яго спальнік"*). Калі нікога не было побач – уключаў сабе балканскую мелодыю з фільму "Savior", адпускаючы з душы ўсё, што было, і што магло б быць, разам з нямым плачам.

Але Агнешка вярнулася праз месяц ды патэлефанавала Самураю. З гэтай прычыны мы ўсе, зрэшты, і былі тут.

***

– Анд'эй, а хто гэта? – Агнешка злёгку не выгаворвала "р".

– Алена. Мая жонка.

– Такая... тоўстая?

Варта дадаць, што на здымку Алена зусім не падавалася поўнай – наўпрост сукенка развівалася на вятрыску. Але Агнешка ніколі не лезла за словам у кішэнь... Самурай насупіўся.

– Пайшла вон.

Пераступаючы накаленнікі, вайсковыя разгрузкі ды мятыя старонкі з рэстаранных меню, дзяўчо скіравалася да выхаду, не абраніўшы ні слова. Я застаўся сам насам з гаспадаром. Што рабіць? Пачаў узірацца навокал. На адным з фота Самурай стаяў яшчэ малады, у модным чорным гарнітуры, з валасамі да плячэй ля нейкага замка ў полі. У руках – катана. Персанаж Таранціна, не інакш.

– Пакажы нажы, га? Ведаю, што маеш.

– Зараз...

Самурай перакруціўся на канапе ды зухавата палез пад ложак. Адтуль пачалі выплываць нейкія похвы ды сувоі з закручанымі лёзамі.

– Гэта Walther, так, яны і халадняк робяць... Гэта – Gerber – такі самы, як у Бэра Грылза... Во гэты глянь – “Кізляр”, трафейны...

Самурай быў ужо на падпітку, таму бесперапынна дыхаў мне ў скронь моцным перагарам. У ягоных руках клінкі літаральна танчылі: новыя і падрапаныя, бліскучыя і варанёныя, з пластыкавымі, драўлянымі, абанітавымі ручкамі... Калі я адвёў вочы, погляд раптоўна ўпаў на дзве катаны на камодзе ля сцяны.

Паклаўшы чарговы “Нокс” на столік, завалены немаведама чым, я ўстаў ды пайшоў да сцяны. Японскія клінкі на адлегласці падаваліся дасканалымі: з доўгімі аплеценымі ручкамі, мінімалістычнымі эфесам, бліскучымі чорнымі похвамі...

– Я вазьму?

– Не!!!

Я абярнуўся на крык з-за спіны. Прыязны імгненне таму Самурай прыўстаў з канапы, сціскаючы той самы “Кізляр” на ўзроўні пояса, злёгку падагнуўшы калені, нібы перад бойкай. Некалькі секундаў мы глядзелі адно аднаму ў вочы. Я не вытрымаў першы і паказаў пустыя далоні.

– Усё нармальна, я не бяру.

– Ніхто *(паўза)* не мае *(паўза)* права, – запаволена і ўжо значна цішэй выцэдзіў з сябе Самурай, – Ніхто!

У вітальні пачуліся крокі, бразнула нейкая пасудзіна. У памяшканне троху мядзведзявата ўваліўся Юра, які некалі нас і пазнаёміў. Па сваёй натуры Юра быў міратворцам і чалавекам Божым, вечным валанцёрам і пакутнікам за чужыя грахі.

– У вас усё нармальна?

– Так, так, усё гуд. Пайшлі на двор.

– Ты ідзі, а я з Самураем пасяджу. Далучуся пазней.

***

– Ну што там? – Мірaслаў акурат прыкурваў ад галавешкі з вогнішча.

– Нічога. Самурай мяне ледзьве не зарэзаў.

– Бывае, – волат у акулярах флегматычна пусціў струмень дыму. – Гэта не самае горшае. Ён у мяне жыў у Кіеве пару тыдняў. Мая жонка была самым шчаслівым чалавекам у свеце, калі ён з’ехаў.

– Таксама з нажом кідаўся?

– Ты рамантык! – расплыўся ва ўсмешцы Мірaслаў, – Проста піў штодня...

З лавы, якая стаяла пад яблыняй, ля самага вогнішча ўзнялася Агнешка. Троху “прыгубіўшы”, дзяўчына пачала актыўна жэстыкуляваць.

– Слухай, за’аз п’ыедзе Багдан... Можаш яго суст’эць?

– Які Багдан?

– Ну то-о-ой! З паліцыі, к’ымінальны вышук... Я сказала яму ад’ас.

– А-а-а.

– Но-о. Будзе п’аз хвілін дзесяць, сказаў.

– Без праблем.

На двары ўжо добра сцямнела. Бутэлькі на пашарпаным століку ды цэлафан пакетаў з закускай асвятляліся водблескамі вогнішча. Міша, не выпускаючы цыгаркі з рота, здымаў з дапамогай мачэтэ засмаглыя сасіскі з прута, які выконваў ролю шампура. А вось і Юра! Валанцёр выйшаў з камяніцы з пабялелым тварам.

– Так. Толькі не здзіўляйцеся, што б зараз не адбылося. Не рабіце рэзкіх рухаў і не смейцеся. Ні ў якім разе.

Мы пераглянуліся.

– Ш-ш-ш, – Юра паднёс указальны палец да вуснаў і абвёў усіх позіркам, нібы настаўнік вучняў падчас культпаходу ў тэатр.

– О, Божа, – Міраслаў узяўся за галаву.

– Андрэй сказаў, што будзе рабіць *гэта* трэці раз у жыцці. Таму... гэта вельмі важна.

Я нічога не зразумеў, але паспрабаваў узгадаць што-небудзь сумнае – каб раптам не засмяяцца. Агнешка стала каля Юры, склаўшы рукі на грудзях. І толькі самураеў сусед і сабутыльнік Міша працягваў займацца сасікамі, прысеўшы бліжэй да вогнішча.

Праз хвіліну на ганку паказаўся гаспадар. Пад электрычнай лампачкай ён стаяў басанож, у чырвоным кімано, перавязаным шырокім поясам, з-за якога былі бачныя два клінкі: карацейшы і даўжэйшы. Мяне здзівіла, што Самурай амаль не хістаўся.

Моўчкі ён пайшоў у наш бок і спыніўся за пару метраў ад вогнішча. Юра падсунуўся бліжэй да Агнешкі, закрываючы яе плячом. Нешта мелася адбыцца... Вытрымаўшы паўзу, Самурай дастаў з похваў меч, занёс над галавой і зрабіў выпад наперад. Здавалася, у гэты момант спыніліся ўсе гадзіннкі ў Львове, дзея адбывалася ў пазачасовай прасторы. Фігура ў кімано рэзка развярнулася і паразіла нябачнага праціўніка ззаду, рассекшы паветра. А далей...

Далей сталася неверагоднае. Міша, які "заліваў" прыкладна з абеду, развярнуўся са сваёй сасісачнай рапірай да Самурая са словамі:

– Андрэй, а дзе кетчуп у цябе?

Запанавала ціша.

– Ну-у, кетчуп... для са-сасісак...

Самурай з узнятым над галавой мячом ператварыўся ў застыглага тэракотавага ваяра з грабніцы Цынь Шыхуандзі. Ён глядзеў на Мішу. Адзін рух і майка "Карпати Львів" перафарбавалася б з зялёнага ў чырвоны... Праз імгненне рукі Самурая апусціліся, нібы гумовыя, і ён моўчкі схаваў клінок у похву. Развярнуўся ды хістаючыся скіраваўся ў хату.

Бакавым зрокам я заўважыў, што на стале свеціцца тэлефон. Багдан прыехаў.

***

Ля брамы пад ліхтаром чакаў кораткастрыжаны падкачаны, але з невялікім жыватом, мужчына гадоў 35 у белай кашулі ды чорных нагавіцах. Добрапаголены, вочы-гузікі, кароткія рукі... Хутчэй не афіцэр, а нейкі раённы чыноўнік альбо бізнесовец. Зараз я меў правесці яго партызанскімі тропамі ў сад, папярэдне даўшы інструктаж.

– Што б ты не пабачыў: не здзіўляйся. І не смейся.

– А што можа быць?..

– Ахвяры.

Замначальніка крымінальнага вышуку з сумам паглядзеў у след ад'язджаючай таксоўцы. Недзе ў канцы вуліцы брахаў сабака.

– Ну, пайшлі.

Насуперак чаканням, ля вогнішча можна было назіраць ідылію. Самурай у кімано абдымаў усмешлівую Агнешку. Троху далей, ля століка, Юра з Міраславам нешта абмяркоўвалі. Насупраць прыстроіўся Міша, які, на дзіва, застаўся жывы, але перамясціўся ў катэгорыю "нерукапажатых". Самурай з ім не піў.

– Ты што? З-за кетчупа?

– Ты мяне абразіў. Наступным разам – завалю.

Багдан, гледзячы па ўсім, адчуваў сябе ніякавата. Катаны, кімано, агонь у зарослым садзе, а тут яшчэ і... Ён па чарзе глядзеў то на Агнешку, то на п'янага і шчаслівага Самурая. Я разліў па кілішках, мы выпілі за рэформы, пасля чаго давялося задаваць дурацкія пытанні пра "новую паліцыю", каб не маўчаць...

– А вось, напрыклад, – адразу ўмяшаўся Самурай, – ёсць "сепар" або наркагандляр, якому вы нічога не можаце зрабіць: не падкапаешся. Вы ж маглі б зліваць пра яго інфармацыю... ну... такім, як я. А мы б вырашалі пытанне.

– Ведаеце, не ўсё так проста, – афіцэр канчаткова разгубіўся і пачаў азірацца, шукаючы ці тое схаваную камеру, ці тое выхад з саду, – ёсць нормы...

– Ага, – Самурай зноў недаверліва прымружыўся.

– Нам не так лёгка працаваць, як вы думаеце.

– То бок вы... не выконваеце сваю працу? – Самурай зрабіў тэатральны жэст далонню без некалькіх пальцаў.

– Я не зусім гэта меў на ўвазе...

– Ты не хвалюйся. Я скажу, калі трэ' будзе хвалявацца.

– Разумееце, тут трэба змяняць усю сістэму, – мент намаляваў кола ў паветры, якое сімвалізавала "сістэму", – мы ж рухаемся да Еўропы, а гэта не так проста. Найперш, патрэбная адкрытасць і празрыстасць інстытутаў...

Самурай больш нічога не казаў. Толькі слухаў ды глядзеў у вогнішча з пячорным сумам паляўнічага, які стаў непатрэбны свайму племені.

***

– Ведаеш, той, хто напіша праўдзівую гісторыю гэтай вайны, будзе пракляты, – Міраслаў пусціў чарговы струмень дыму ў зорнае неба, – Мажліва, гадоў праз 70, на доме такога чалавека і з'явіцца мемарыяльная шыльда, але зараз ён будзе пракляты.

Мы стаялі пад электрынай лампай на ганку. За метраў дваццаць ад нас у цемры патрэсквала вогнішча, было чутно, як смяецца Агнешка, а захмялеўшы Самурай травіць ёй франтавыя байкі. Побач, імаверна, сядзіць "нерукапажаты" Міша і п'е сам з сабой. Мент, дарэчы, ужо зваліў.

– Самурай – герой, бясспрэчна, – працягваў Слава, – але зараз яго галоўны занятак – самаліквідацыя. Лічы, сеппуку, расцягнутае ў часе. То бок, па логіцы, акурат генералы, якія ўсім гэтым кіравалі, мелі апрануць кімано ды ўспароць сабе жываты: за катлы, карупцыю, зліў інфармацыі ворагу. Каб змыць сорам. Але так ніколі не будзе, бо дзеці нашых на-

чальнікаў яшчэ маюць стаць начальнікамі нашых дзяцей... Таму, замест іх гэта робіць Самурай.

Юра стаяў побач і слухаў моўчкі, час-почас запракідваючы бутэльку з мінералкай або папраўляючы сваю дзяжурную кепку. Ён прынцыпова не ўжываў алкаголь.

– А наогул, шмат такіх? – я пацягнуўся за чарговай цыгарэтай.

– Шмат, адсоткаў 20–30. Гэта трагедыя дабраахвотніцкага руху. А каму яны патрэбныя? Дзяржаве лягчэй іх пахаваць і прызнаць героямі, чым жыць з імі ў адной краіне. Іх адзінота і бездапаможнасць – гэта пісталет з адным набоем, які кожнаму даюць па вяртанні дадому. Вось, маўляў, жыві і глядзі на ўсё гэта... калі зможаш.

Каля вогнішча зацягнулі “Ой, чий то кінь стоїть...”

– О, Божа! Як можна было спаскудзіць такую песню! – Міраслаў узняў рукі да неба, – я больш не вытрымаю...

Трэба было збірацца.

***

– Ты... выйдзеш за мяне?

– Так, канешне! – Агнешка голасна рассмяялася.

Мірэк з Юрам ужо пайшлі да брамы, дзе чакала таксоўка. Міша ўсё яшчэ сядзеў ля вогнішча: падалося нават, што я чую, як тлушч з сасісак капае ў агонь. Самурай з Агнешкай развіталіся пад электрычнай лампай каля ганку. Я чакаў на яе троху далей, у цемры, каб развітанне не зацягнулася на паўтары-дзве гадзіны, машына чакала.

– Ведаеш, сёння ўначы я нават сніла, што на ’уцэ не маю пальцаў, уяўляеш? – Агнешка прыабняла Самурая, які ажно прымружыў вочы, – Шчы’а!

Ён узяў яе правую далонь і моўчкі расцалаваў кожны палец паасобку. Пасля прыклаў далонь да свайго ілба і заплюшчыў вочы, нібы сум і скруха, накопленыя стагоддзямі, мелі пакінуць яго такім чынам. Яна ўсміхнулася.

– Чакай... гэта табе, – на далоні Самурая з'явіўся прамакутнічак памерам з паштовую марку.

– Што гэта?

– Фота.

– Дзіўнае...

– Гэта з пасведчання ўдзельніка АТО. Іншага не маю.

– Анд'э-э-эю! То маеш уклеіць назад, а мне дашлеш мэйлам!

– Я... не маю зараз камп'ютара. А пасведчанне мне не трэба...

Падумаўшы імгненне, Агнешка хуткім рухам выхапіла фота ды паклала ў кішэнь чорнай курткі са скуразайменніка. Ён глядзеў ёй у вочы, нібы чакаў цуда.

– Ты... такая...

– Но-о-о, пе'астань! Яшчэ пабачымся, не сумуй!

– А калі ты ад'язджаеш?

– Заўт'а.

Агнешка яшчэ раз павісла на шыі ў Самурая, пацалавала ў няголеную шчаку ды зноў усміхнулася. Калі яна сабралася адыходзіць, Самурай спачатку нядобра глянуў у мой бок, а пасля спрабаваў затрымаць. Але алкаголь зрабіў сваю справу: пакалечаная далонь зачарпнула пустку ды шлёпнулася аб сцягно гаспадара, які стаяў як саляны слуп на ганку пацалаванага смерцю дома.

Сцяжынай да фурткі я вёў яе за руку, каб не ўпала. Юра з Міраславам, мабыць, ужо зачакаліся...

– Стой, мне звоняць! – нязграбным рухамі Агнешка выцягнула тэлефон з сумачкі, на яе твары зноў залунала ўсмешка, – О! Гэта Багдан, планы змяняюцца...

Праз галінкі грушы, пад якой мы спыніліся, ледзьве блішчэлі ці тое зоркі, ці тое адлятаючыя іскры нашага вогнішча, якія больш ніколі сюды не вернуцца.

***

Наступнага дня па абедзе на стол нявыспанага намесніка начальніка львоўскага крымінальнага вышуку лягло кароткае паведамленне: *"У двары прыватнага будынку на вул. Аляшэўскага знойдзены труп мужчыны, на выгляд 35–40 гадоў. Прычынай смерці стала страта крыві ў рэзультаце ўдара вострым прадметам – стылізаваным самурайскім клінком, які застаўся ў целе ахвяры..."*.

– Ніндзя, мля, – Багдан правёў далонню па твары і ўздыхнуў.

*"Дакумантаў пры трупе і ў доме не знойдзена. Асабістыя прыкметы: шнар на левай шчацэ..."*

– Пра пальцы нічога не напісалі, эксперты @баныя...

*"Быў апрануты ў сінія джынсы і майку «Карпати Львів»..."*

– ...

У дзверы пагрукаў, а пасля асцярожна зазірнуў лейтэнант у цёмна-сінім кіцелі.

– Багдан Аляксандравіч, да вас прыйшлі.

– Хто?

– Атошнік, знаёмы, кажа, заходзіў ужо раней.

– Хм-м... Давай сюды.

Галава лейтэнанта схавалася, дзверы зачыніліся, каб праз хвіліну адчыніцца зноў. На парозе стаяў ча-

лавек у выцертым брытанскім камуфляжы, з шэўронам добраахвотніцкага батальёна на адным плячы і маленькім чырвона-чорным простакутнічкам на іншым.

Багдан адкінуўся ў мяккае крэсла і ўважліва глядзеў на госця, які прычыніў за сабой дзверы, не выцягваючы рукі з кішэняў. Госць моўчкі прабегся вачыма па кабінеце: поруч са сталом віселі спартовыя граматы, стаяў бліскучы кубак з выявай футбаліста, у куце красавала вялізная залачоная ікона Багародзіцы і партрэт Сцяпана Бандэры. Чалавек у камуфляжы ўсміхнуўся.

– Добрага дня, - нарэшце спахапіўся Багдан, – калі Вы, м-м-м, па нейкай справе, то ёсць парадак прыёму...

– Ты не хвалюйся, – Самурай глядзеў на афіцэра добрымі, як у Лао Цзы, вачыма, – я табе скажу, калі трэба будзе хвалявацца.

Правая рука з абрубкамі фалангаў выслізнула з кішэні ды вокамгненна паклала на дубовы лакаваны стол цёмназялёную кульку, памерам з вялікую сліву. Багдан яшчэ паспеў заўважыць, як рычаг адляцеў кудысці ў бок, за камп’ютар, а РГД-шка без кальца пракацілася па гладкай паверхні стала і ўпёрлася ў абцягнуты скурай штодзённік з бліскучымі металічнымі куткамі – падарунак міністра ўнутраных спраў.

*07.08.2016*
*Часопіс “Справа”*

## Пясчаны бераг

Ячомаўся толькі на халоднай падлозе, неахайна выкладзенай бруднай карычневай пліткай, да якой на імгненне прытуліўся тварам, калі падаў. Машынальна паспеў абярнуцца, але постаць у чорным ды ў балаклаве на галаве ужо сыходзіла, прычыняючы за сабой моцныя жалезныя дзверы. Звонку бразнула засаўка. Убачыць паспеў толькі неймаверна касматую зарослую поўсцю руку, бо рукавы кіцеля былі закатанаыя па локаць. Шэўрон, ясна, не разгледзеў. Чачэнец? Зрэшты, чаму б не... лагічна.

Троху прыпадняўшыся я прысеў на кукішкі, азіраючыся навокал. Гэта нейкі падвал ці каземат невядомай мне вязніцы. Амерыканка? Не. Валадарка? Магчыма. Калі стары корпус. Толькі вось масіўныя дзверы тут чамусці без звыклай “кармушкі” для падачы ежы арыштантам, але з “ваўчком” – каб прыглядаць з калідора. Ды і талчка няма. Значыць, нешта іншае.

З-над дзвярэй ледзве ззяла лямпачка, схаваная пад тоўстым рыфлёным шклом ды прыпячатаная некалькімі металічнымі рамяшкамі, тыпу, супрацьударная. Таленавіты архітэктар, незразумела навошта, засунуў яе ў адтуліну ў сцяне, панаваў паўзмрок. Усё памяшканне памерам, магчыма, чатыры на чатыры метры. Недзе ўвышыні – ваконца, закладзенае матавымі шклоблокамі, звонку, стопудняк, закратаванае. На сценах – бетонная "шуба".

Па кутах, нібы мяхі, ляжаць дзве постаці – чорная ды камуфляваная. Камуфляж-брытанка, цяжка не пазнаць. Калі засаўка перастала бразгацець, а звонку пачуліся аддаленыя цяжкія крокі, "брытанка" спачатку заварушылася, а пасля пачала набываць чалавечыя рысы. Вось узнялася кораткапаголеная галава, твар... Віця! Так, Віцька, дакладна!

Цёмна-зялёныя вочы хлопца заблішчэлі, ён прыўстаў ды зрабіў крок у мой бок, каб прысесці побач. Я здзівіўся, што кіцель быў дужа брудны, парваны ў некалькіх месцах, а здаравезная чорна-чырвоная пляма красавала ў раёне грудзей – заўважыць было не цяжка нават пры такім святле.

– Ты як? – спытаў стары знаёмы.

– Нармальна, жывы нібыта...

– Тады як сюды? – Віцька неяк сумна усміхнуўся, убок.

– Я... зараз скажу... – гэтым разам ужо я адвярнуўся ўбок, спрабуючы ўсё прыгадаць.

– Ну, глядзі. Прыйдзі ў сябе троху, пасля раскажаш, – Віця паказаў на пластыкавую бутэльку з абрыўкам этыкеткі, якая стаяла раўнютка пад вакном, – калі піць схочаш, то там возьмеш.

– А гэта наогул... ?

– Пасля-пасля. Усё раскажам.

Сілуэт у брытанцы развярнуўся ды зрабіў крок на сваё папярэдняе месца, дзе два састаўленыя драўляныя паддоны былі прыкрытыя нейкім рыззём. Віцька... Ты ніколі не прызнаваў бундэсаўскага камуфляжу, я памятаю. Хоць знешне бундэс – значна больш эстэтычны, але – практычнасць для цябе перадусім: адзёжка Бундэсверу хутка праціраецца і рвецца на каленях і локцях, таму, без шанцаў. А як жа выгляд?.. Годзе, гэта наша старая амаль тэалагічная спрэчка.

Чакай, дык як... Я памятаю разбіты вакзал, памятаю, як нырнуў у нейкую варонку за перонамі. Памятаю, як лавіў у прыцэл постаць у камуфляжы-горцы. Памятаю, як яна ўпала. Не памятаю, як і адкуль вакол маёй схованкі выраслі людзі – трое ці пяцёра? Яны смяяліся, бо я ўжо не меў боекамплекта. Сталі і смяяліся, а я глядзеў на іх знізу. Памятаю, як падскочыў ды кінуўся ўцякаць у бок брамкі у бетонным паркане, да якой вяла лесвіца. А далей... Святло, усё нібы ў золаце, сосны, пясчаны бераг, возера. Нейкія хлапчукі даюць нырца і ...дастаюць з-пад вады вогненныя шары, якія самі сабой падымаюцца ў неба. Не-не, гэта ўжо трызненне.

Я правёў далонню па твары, патыліцы, абмацаў шыю, паварушыў пальцамі на нагах. Усё нібы цэлае. Касцяшкі толькі разбітыя. Далонь троху расшпіліла маланку на куртцы ды схавалася за варатам кашулі. Крыжыка няма! С...кі я...ныя!.. Але, дзіўна, медальён застаўся. Я трымаў у руцэ расплюшчаны кавалачак срэбра, падобны да манеты, з дзіўным арнаментам ды выявай зоркі. Старадаўні язычніцкі амулет. Яна яго падарыла, калі мы вярталіся з Будапешта. А ёй – падарыў бацька, калі яна мела ўсяго 16, калі яны сям’ёй адпачывалі ў Кактэ-

белі, калі Крым яшчэ быў... Дзе яна зараз? Што з ёй?

Пальцы мулялі медальён, а галава не разумела простай рэчы: чаму забралі крыжык, а медальён пакінулі? Крыжык, зрэшты таксама быў срэбраны, мацін абярэг... Чаму?

Я яшчэ раз агледзеўся. Гэта ўсё ж такі нейкі ізалятар, інакш "ваўчок" у дзвярах выглядаў бы недарэчна. Адстойнік, магчыма... Гэтым часам, другі "мех" пад сцяной пачаў варушыцца ды кашляць, пасля прыпадняўся ды сеў на сваім паддоне. Грузная постаць у скуранай куртцы, з-пад якой быў бачны акрайчык пінжака ды каўнер светлай кашулі, пачала корпацца ў кішэнях, дастала цыгарэты з запальнічкай. Цвырк-цвырк, агеньчык больш яскрава асвяціў заплыўшы вусаты твар... Ён паглядзеў на мяне ды выпусціў струмень дыму. Крыжакевіч!

– Вітаю, – коратка адазваўся вусаты, пазіраючы ўжо ў іншы бок.

– Добры дзе-ень... вечар.

Я анямеў. Божа, ён жа памёр гады з два таму. Яшчэ да пачатку ўсяго. Да пачатку канца. Няўжо ўвесь гэты час... няўжо тут? Не можа быць.

– А вы...

– Я-я, так. Даўно ўжо тут. Гэта вас апошнім часам пачалі закідваць, змяняць, – Вусаты закашляўся ды сплюнуў у бок дзвярэй, – а я – увесь час тут.

Немагчыма. Анатоль Пятровіч памёр два гады таму ад сардэчнага прыступу. Пра гэта пісалі ўсе сайты. "Айцец адраджэння, без якога не абыходзілася ніводная вулічная акцыя..." – гэта пра яго. Вясёлы дзядзька быў, я яго бачыў разы з два. Аднаго разу пасля 2010-га, калі падпісваў нешта ад імя арганізацыі яшчэ на старой Управе партыі, калі выйшаў з Акрэсціна.

